# ЛіМ ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

1 ЖНІЎНЯ 2003 г. № 31/4217


**Сустрэчы ў Амерыцы ...з Караткевічам**

4-5



**Рэха "Славянскага базару ў Віцебску"**

10-11



***Віталь БАРКОЎСКІ:***

"Хвароба беларускіх тэатраў — арыентацыя не на грамадзянскую годнасць, а на неабходнасць"

13



# ВОЛАТАЎСКАГА КОРАНЮ

***13 жніўня 1913 года нарадзіўся старэйшына беларускага музычнага мастацтва, патрыярх айчыннай кампазітарскай школы, Настаўнік некалькіх творчых пакаленняў, народны артыст Беларусі, лаўрэат Дзяржаўных прэмій, прафесар Анатоль Багатыроў. Віншуем з 90-годдзем!***

*НА ЗДЫМКУ: прафесары У. АЛОЎНІКАЎ, М. БЕРГЕР, А. БАГАТЫРОЎ, кампазітар К. ЦЕСАКОЎ у прэзідыуме VIII з'езда кампазітараў Беларусі. 1980 г.*

Працяг тэмы на стар. 10-12

# КОЛА ДЗЁН

**Пачаўся апошні месяц каляндарнага лета. Надвор'е якраз спрыяе не толькі адпачынку, але і ўборцы ўраджаю. А якім будзе ўраджай — залежыць не толькі ад прыроды, але і ад таго, як мы справімся сабраць тое, што вырасла...**

### ПАДПІСАННЕ ТЫДНЯ

22 ліпеня Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка падпісаў закон "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб усеагульным воінскім абавязку і ваеннай службе". Гэтыя дапаўненні, па сутнасці, змяшчаюць новую рэдакцыю закона, які ўводзіць у тым ліку і новы для Беларусі від воінскай службы — службу ў рэзерве.

### ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

На сённяшні дзень узровень пісьменнасці ў нашай краіне адзін з самых высокіх у свеце. Пісьменнасцю ў нас валодаюць 99,7 працэнта насельніцтва 15-ці гадоў і вышэй. У Расіі і Украіне ўзровень пісьменнасці крыху ніжэйшы — 99,6 працэнта, у Арменіі — 98,5, Кыргызіі — 97. Выдаткі на адукацыю ў нашай краіне ў 1988—2000 гадах складалі 6 працэнтаў ад валавога ўнутранага прадукта. У Расіі і Украіне на адукацыю выдаткі складаюць 4,4 працэнта ад ВУП. Па выдатках на адукацыю нас пакуль што апярэджваюць Нарвегія (6,8 працэнта) і Швецыя (7,8 працэнта), а адстаюць такія краіны як ЗША (4,8), Швейцарыя (5,5 працэнта) і інш.

### ЗНІЖЭННЕ ТЫДНЯ

З пачатку года знешняя запазычанасць за пастаўленыя энергарэсурсы ў нашу краіну знізілся прыкладна на 54 млн. долараў. Пры гэтым запазычанасць знізілася на суму каля 34 млн. долараў і каля 20 млн. — за электраэнергію.

### САЛЬДА ТЫДНЯ

У студзені—маі беларускія тавары пастаўляліся на рынкі 117 дзяржаў свету, імпартаваліся ў нашу краіну з 130 дзяржаў. У краіны СНД экспарт беларускіх тавараў павялічыўся амаль на 20 працэнтаў (пры гэтым у Расію — на 17,6 працэнта). У краіны па-за межамі СНД экспарт павялічыўся больш чым на 31 працэнт. Аб'ём імпарту павялічыўся на 30,5 працэнта. Пры гэтым увоз тавараў з краін СНД павялічыўся на 36 працэнтаў (з Расіі — больш чым на 38). Сальда знешняга гандлю склалася адмоўным у памеры 418 млн. долараў.

### РОСТ ТЫДНЯ

У параўнанні з першым паўгоддзем леташняга года сёлета ўвод жылля ў эксплуатацыю павялічыўся на 17 працэнтаў. Заданне па будаўніцтве жылля ў сельскай мясцовасці выканана на 113,8 працэнта. Усяго, паводле папярэдніх даных, пабудавана жылых дамоў агульнай плошчай 1626 тысяч квадратных метраў.

### ВЫСТАВА ТЫДНЯ

З 1 па 3 жніўня ў Мінску пройдзе шостая Міжнародная выстава мадэляў чыгункі, традыцыйна прымеркаваная да Дня чыгуначніка. Адны з арганізатараў мерапрыемства — сябры сталічнага Таварыства аховы помнікаў тэхнікі і транспарту "Наша Перамога" — прадставяць, у памяшканні станцыі "Заслонава" Мінскай дзіцячай чыгункі мініяцюрныя копіі рухомага саставу, будынкаў і іншых чыгуначных збудаванняў.

### ПАЛЯПШЭННЕ ТЫДНЯ

За 6 месяцаў гэтага года дзяржінспектарамі Дзяржаўнай інспекцыі аховы раслiннага і жывёльнага свету пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь выяўлена 13770 выпадкаў парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства. У параўнанні з першым паўгоддзем мінулага года колькасць выяўленых парушэнняў павялічылася на 1195 выпадкаў. Трэба спадзявацца, што дзяржінспектары сталі лепш працаваць, а не ўзрасла колькасць правапарушэнняў...

### ПЛАНЫ ТЫДНЯ

50 тысяч долараў плануе выдаткаваць сёлета ўрад Швейцарыі для дзіцячых сацыяльных устаноў нашай краіны. Гэтыя грошы пойдуць на набыццё сродкаў рэабілітацыі, абсталявання, інвентару, а таксама на навучанне беларускіх спецыялістаў па пратэзіраванні інвалідаў з ампутацыяй ног.

### ЗБЛІЖЭННЕ ТЫДНЯ

Вядучымі астраномамі свету заўважана і падлічана, што за апошнія 60 тысяч гадоў у наш бок ляціць на максімальнае збліжэнне "чырвоная планета" (Марс), якая ўжо зараз абагнала па яркасці ўсе бачныя на небе зоркі. Самае кароткае "спатканне" Марса і Зямлі адбудзецца 27 жніўня гэтага года ў 13.00. У гэты момант паміж нашымі планетамі будзе толькі 55,76 мільёна кіламетраў. Яркасць Марса да 27 жніўня павялічыцца ажно ў два з паловай разы.

**КОНКУРСЫ**

# КОНКУРС ПРАЦЯГВАЕЦЦА – НЕ ЗАБЫЛІСЯ?

***Не гэтак даўно наш штотыднёвік змясціў умовы правядзення Рэспубліканскага конкурсу на лепшы літаратурна-мастацкі твор, заснаванага Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь і выдавецтвам «Мастацкая літаратура». Часу мінула няшмат, але мы вырашылі пра першыя «крокі» гэтага значнага мерапрыемства распытаць у галоўнага рэдактара выдавецтва «Мастацкая літаратура» Уладзіміра Марука.***

**— Уладзімір Антонавіч, ці шмат за гэты нядоўгі час вы атрымалі конкурсных рукапісаў, які іх узровень, чаго больш дасылаюць: прозы, паэзіі, драматургіі?**

— Сапраўды, конкурс абвешчаны ў красавіку, але паволі набірае моц. За гэты час у выдавецтва паступіла 16 рукапісаў. Больш паловы — паэтычныя, астатнія празаічныя. Твораў драматургічных на конкурс яшчэ не атрымлівалі. Мы з вамі разумеем, што гэта складаны жанр. А калі ў запасніках, як той казаў, няма нічога, дык напісаць п'есу (ды хоць бы і аднаактоўку) не гэтак проста. Але я думаю, што драматычныя творы мы атрымаем, часу на прыём рукапісаў даволі — да канца года.

Што яшчэ хочацца заўважыць. Больш за палову з атрыманага — творы, даруйце, графаманскія. Нямала каму, хто не мае ніякіх творчых здольнасцей (але хапае вольнага часу), увявілася, што ён ці яна можа напісаць нешта вартае. Але гэта не так — такія творы нельга разглядаць не толькі на рэспубліканскім конкурсе, але і для надрукавання ў насценнай газеце. Я праз ваш штотыднёвік прасіў бы гэтакіх «творцаў» (калі яны зразумеюць) не напружваць сваім графаманскім напорам і ўціскам сяброў журы конкурсу, бо ў іх даволі клопату і на асноўных месцах працы, а ў нас яны за разгляд рукапісаў нічога не атрымліваюць.

**— Конкурс праводзіцца па дзвюх намінацыях: літаратура для дарослых і дзіцячая літаратура. А якіх рукапісаў дасылаюць больш?**

— Калі зноў жа разважаць лагічна, то дзіцячыя творы не пішуцца «ў стол». Таму адразу пачалі паступаць адно творы для дарослых, толькі ў апошні час — некалькі рукапісаў для дзяцей. Але напрыканцы года іх, я думаю, мы атрымаем нямала. Хацелася б, каб так было, бо добрая дзіцячая літаратура больш запатрабаваная.

**— А ці ўзнікаюць якія праблемы з канкрэтнымі ўмовамі конкурсу?**

— Так, узнікаюць. Рукапісаў пяць давялося адаслаць назад, бо ў іх парушана асноўнае — аўтары «рассакрэчваюць» сябе, называюць прозвішча і г.д. Таму хачу паўтарыць яшчэ раз, што конкурс з'яўляецца закрытым. Рукапісы (2 экземпляры) дасылаюцца бандэроллю на адрас: 220600, г.Мінск, праспект Машэрава,11, выдавецтва «Мастацкая літаратура» з пазнакай «На конкурс». На кожным экземпляры рукапісу павінен быць змешчаны аўтарскі дэвіз. У бандэроль неабходна ўкласці заклеены канверт са звесткамі пра аўтара (прозвішча, імя, імя па бацьку, адрас, пашпартныя звесткі), на канверце павінен быць указаны толькі аўтарскі дэвіз.

І вось на што хачу звярнуць увагу, бо ёсць у такіх выпадках нямала парушэнняў умоў конкурсу. Рукапісы павінны быць афармлены ў прыдатным для разгляду выглядзе. Друкаваць творы неабходна на паперы стандартнага фармату, на старонцы павінна быць 30 радкоў, даўжыня радка 57-58 знакаў, уключаючы прагалы (проза, драматургія). У гэтым выпадку адзін аўтарскі аркуш роўны 23 старонкам машынапіснага тэксту (40 тыс. знакаў). На старонцы паэтычнага рукапісу павінна быць таксама не больш за 30 радкоў. Адзін аўтарскі аркуш паэзіі складае 700 радкоў. Усе старонкі рукапісу неабходна пранумараваць. Для тэкстаў, раздрукаваных з камп'ютэрнага набору, захоўваюцца аналагічныя патрабаванні.

Памер конкурсных празаічных твораў не павінен перавышаць 12, драматычных — 8, паэтычных — 5 аркушаў.

Яшчэ адна акалічнасць, пра якую варта згадаць. Часам дасылаюць на разгляд толькі адзін верш ці адно невялікае апавяданне. Хачу папярэдзіць, што выданне ніякіх калектыўных зборнікаў па выніках конкурсу не прадугледжана, таму ў ім будуць удзельнічаць толькі творы, што могуць выйсці асобнай кнігай.

Спадзяёмся, што Рэспубліканскі конкурс на лепшы літаратурна-мастацкі твор набудзе пашырэнне і выявіць не адзін яркі талент і таленавіты твор.

# У ВЯНОК ВАСІЛЮ БЫКАВУ



***Прайшло сорак дзён як побач з намі не стала Васіля БЫКАВА. Але засталася памяць пра яго, засталася народная любоў да яго як пісьменніка і грамадзяніна нашай краіны.***



Георгій ЛІХТАРОВІЧ

## ВАСІЛЬКОВЫ САНЕТ

(25 чэрвеня 2003)

*Прачнуўся ранак росны,*
*трапяткі*
*І першым промнем*
*з горада паклікаў*
*На волю, дзе ні грукату,*
*ні зыкаў,*
*Дзе сонейка вітаюць*
*жаўрукі.*

*Я не люблю купляныя*
*вянкі,*
*Скажонена-хаўтурны*
*спеў музыкаў,*
*І ў дзень, калі ад нас*
*сыходзіць Быкаў,*
*Збіраю кветкі ля лясной*
*ракі.*

*Узгадавала родная*
*зямля*
*Тут васількі для*
*дзядзькі Васіля —*
*Сінечу поле жытняе*
*люляе,*
*Букет нібыта з неба*
*я стварыў,*
*Ды роспачна сумленне*
*назаляе:*
*Чаму жывому кветак*
*не дарыў?..*

Валеры БАРТАШЭВІЧ

## ПРАРОК

*Прарок застаўся*
*між людзьмі —*
*Душа ж навекі*
*адляцела,*
*Жальбу не выкажаш*
*слязьмі,*
*Што Беларусь*
*асірацела.*

*Ён нас наперад павядзе*
*За пакаленнем*
*пакаленне,*
*І ў беларускай грамадзе*
*Не страцім годнасць*
*і сумленне!*

# НА ВАРЦЕ СУМЛЕННЯ

Праведаўшы ў свой час, што Быкаву павінны "даць Героя" (мы — ні слыхам ні духам), стары сябра, вядомы маскоўскі крытык Павел Ульяшоў неадкладна тэлефанаваў нам з Міколам Васьковым у "Сельскую газету": "До Бородулина не дозвонился. Срочно забейте приличный номер в гостинице. Мы накануне большого события".

У "Кастрычніцкай" нас на той раз зразумелі. Раніцой масквіч паспяхова засяліўся. А роўна а трэцяй гадзіне, як і абяцаў, у нумар прыйшоў Быкаў. Размова адразу пайшла неяк проста і лёгка, але з дазволеным у той час гумарам. "Василь Владимирович, мы решили дать про вас в "Литературной России" целую полосу", — заўважыў Ульяшоў. "За што вы мяне так?" — засмяяўся Быкаў, і, дадаў: "Нешта ў гэта не верыцца. Я ж — нацмен. Як гэта вы дасцё нацмену больш месца, чым некаторым сваім?".

Госць стаў рашуча даказваць, што нацыянальнасць не мае тут анiякага значэння, што ёсць пісьменнікі сапраўдныя, таленавітыя, якімі ганарыцца "вся наша огромная страна", а ёсць і зусім іншыя. Быкаў перастаў смяяцца і цвёрда, разважліва, удумліва, як ён гэта заўжды рабіў, сказаў: "Не, браце. Нацыянальнасць — гэта справа сур'ёзная. Я ганаруся тым, што беларус, і пішу перш за ўсё пра характэрныя рысы свайго народа, яго пакуты і яго цяжкі шлях".

Адраджаючы ў памяці тую цікавую сустрэчу, на якой нам з Васьковым пашчасціла быць, я ўспомніў сёння пра Глечыка з "Жураўлінага крыку". Так, нездарма казаў тады Васіль Уладзіміравіч Быкаў пра характэрнае для нацыі. Нацыянальна-ўнутранае, як назваў яго Віктар Каваленка ў сваім артыкуле "Вернасць вернасці", аблічча ў вобразе Глечыка адчуваецца адразу. І з ім нельга не пагадзіцца: Глечык, у адрозненне ад іншых байцоў, і нейкалі наіўны, і празмерна даверлівы, і бездамапожна паслухмяны, і баязлівы... Але ён жа і рашучы, і актыўны ў дасягненні поспеху. Ну, што, пазналі беларуса? З Глечыка Васіль Быкаў пачаў, як мне ўяўляецца, раскрываць у сваіх творах ідэальныя магчымасці прадстаўніка нацыі. Паводзіны герояў Быкава заўсёды палярызуюцца па маральна-духоўных якасцях. На гэтым супрацьстаўленні і "чытаў" Майстар Жыццё.

Натуральна вялікі пісьменнік чытаў яго і ў Хатыні, куды мы падчас той сустрэчы прыехалі на яго машыне. Толькі што перанёсшы інфаркт, Васіль Уладзіміравіч сам пагадзіўся сесці за руль і паказаць маскоўскаму крытыку Хатынь. Тут Васіль Уладзіміравіч прадоўжыў размову пра вайну, пра гора, якое яна прынесла ўсім людзям, і асабліва нам, беларусам. Далучыўшыся да нас ужо ў Мінску, Рыгор Барадулін расказаў пра з'езд пісьменнікаў, які праходзіў у 1976 годзе ў Маскве. Пра тое, як, убачыўшы, што да трыбуны незалежна і спакойна набліжаецца Быкаў, Чакоўскі адразу ж пакінуў прэзідыум...

Быкаў і тады смела і шчыра сказаў свае словы пра савецкую ваенную прозу, пра так званую мемуарыстыку. Праз месяц-паўтара, дакладна не памятаю Ульяшоў даслаў нам "Литературную Россию". Сапраўды, беларускаму Майстру была прысвечана амаль старонка! Сёння яму прысвечаны і даследаванне Л. Лазарава, і праца масквіча І. Дзядкова "Аповесць аб чалавеку, які выстаяў", і "Нарыс жыцця і творчасці" Д. Бугаёва, і многае многае іншае. Я даўно заўважыў, што проза Быкава носіць прытчавы характар. Але гэта не абстрактная схема. Такі падыход не страчвае, па словах Віктара Каваленкі, "жывога хваляванна жыцця". Наадварот, гэтае паўсядзённае хваляванне ўзмацняецца. А ўзмацняецца яно таму, што Быкаў заўсёды быў на варце лёсу нацыі, на варце яе і свайго сумлення. На гэтай варце ён застаецца і пасля сваёй смерці. Жыў Майстар для Беларусі, для свайго народа.

І жыў, як трапна зазначыў Рыгор Барадулін, папраўдзе!

**Уладзімір БАРЫСЕНКА**

**ФОТА Паўла УЛЬЯШОВА**

---

**ІМПРЭЗЫ**




З 21 па 27 ліпеня ў Полацку прайшоў Тыдзень касцельнай музыкі. Яго ўдзельнікі наведвалі майстаркласы, займаліся літургікай, знаёміліся з прафесіяй арганнага майстра. Апроч знанага інструмента ў Канцэртнай зале Сафійскага сабора, загучаў арган і ў полацкім касцёле.

*НА ЗДЫМКУ: Сафійскі сабор – месца галоўных арганных канцэртаў і фэстаў.*

**НАШЫ ВЫДАННІ**

# «НЁМАН» № 7

Чарговы нумар часопіса адкрываецца гутаркай Ніны Чайкі з галоўным рэдактарам часопіса "Наш современник", вядомым расійскім пісьменнікам Станіславам Куняевым. За 14 гадоў, якія С. Куняеў узначальвае вядучы часопіс Расіі, гэтае выданне стала па сутнасці духоўным цэнтрам, які аб'яднаў лепшыя, самыя таленавітыя літаратурныя сілы краіны, што вызначаюцца дзяржаўнасцю і нацыянальным пафасам. Аб жыцці часопіса і літаратуры ўвогуле, аб ролі сапраўднага пісьменніка ў наш няпросты час, а таксама аб многім іншым і разважаюць суразмоўцы, прыходзячы да высновы, што "интеллектуальная резервация — удел немногих".

Публіцыстыка прадстаўлена таксама рубрыкай "Общество. Идеология. Государство", у якой з артыкулам "Истинная сущность идеологии — неизменна" выступае юрыст з дзяржаўна-прававой спецыялізацыяй Анатоль Власаў. Аўтар сцвярджае, што ў нашай рэспубліцы павінна дзейнічаць і пастаянна ўдасканальвацца дзяржаўная ідэалогія грамадства, бо не дзяржава фарміруе грамадства, а, наадварот, менавіта яно канстытуцыйна ўтварае сваю дзяржаву. У рубрыцы "Люди и судьбы" Уладзімір Глушакоў заваcтрае ўвагу чытача на балючых праблемах абяздоленых і гаротных дзяцей, расказваючы аб лёсе дзіцяці, некалі выкінутага на сметнік...

Рубрыка "Проза" на гэты раз знаёміць з творчасцю члена Саюза расійскіх пісьменнікаў Мікалая Казлова, які жыве і працуе ў Мінску. Аўтар дэбютуе аповесцю "Ночь без сновидений". Гэта — яркі псіхалагічны нетрадыцыйны твор, своеасаблівы позірк на рэчаіснасць цяжкапаранена маладога чалавека. Твор, аб якім не проста гаварыць, які нельга пераказаць — яго патрэбна чытаць... Друкуецца і заканчэнне крымінальнага рамана Міхаіла Герчыка "Оружие для убийцы", напісанага на падставе падзей нашага часу.

Паэзія ў часопісе прадстаўлена вялікай падборкай аднаго з вядучых сучасных расійскіх паэтаў Анатоля Аўруціна "Поверуй... Вспомни... Усомнись..." Змешчаны таксама падборкі вершаў беларускіх паэтаў Юрася Свіркі і Уладзіміра Мазго ў перакладах Ф. Яфімава, Н. Лістоўскай і А. Цяўлоўскага. А ў рубрыцы "Впервые в "Нёмане" дэбютуе з вершамі паэтэса Тацццяна Шпартава.

Літаратуразнаўства прадстаўлена артыкулам Георгія Юрчанкі "Энциклопедия народной жизни". Матэрыял прымеркаваны якраз да 80-годдзя з дня выхаду ў свет славутай паэмы Якуба Коласа "Новая зямля".

Літаратурная крытыка прадстаўлена двума грунтоўнымі артыкуламі. У першым з іх Мікола Мішчанчук разважае аб творчай дарозе Браніслава Спрынчана і рэцэнзуе яго новую кнігу вершаў "Вербная неделя". У другім артыкуле "Это мы, Господи!.." Уладзімір Кісялёў рэцэнзуе дзве кнігі, падрыхтаваныя да друку Іванам Чаротам: "Насустрач Духу: Антология беларускай хрысціянскай паэзіі" і "Насустрач Духу: Антология беларускай хрысціянскай прозы". Дарэчы, кнігі былі выдадзены выдавецтвам "Ураджай".

У рубрыцы "Искусство" Кацярына Сазанкова рэцэнзуе пастаноўку на сцэне Беларускага дзяржаўнага маладзёжнага тэатра спектакля па п'есе Б. Шоу "Пігмаліён".

А яшчэ ў рубрыцы "Из почты журнала" — займальны аповед студэнта са Слуцка Андрэя Ясько аб яго веласіпедным падарожжы ў адзіночку на Каўказ. І на заканчэнне — пісьмы чатачоў "Нёмана": шчырыя, зацікаўленыя, з водгукамі на ранейшыя публікацыі, парадамі і заўвагамі.

Адным словам, ёсць што чытаць, ёсць чаму радавацца, ёсць над чым разважыць, ёсць з чым палемізаваць...

**Павел КУЗЬМІЧОЎ**

**ВІНШУЕМ!**



Ёсць публікацыі, якія прываблiваюць чытача кідкімі загалоўкамі. Ёсць публікацыі, якія вабяць імем аўтара. Пабачыўшы знаёмы подпіс, чытач дакладна ведае: гэты матэрыял варта чытаць, там знойдзецца ўсё — і глыбокі змест, і эрудыцыя, і дасціпнасць. Імя журналіста, музыказнаўцы Святланы Берасцень — менавіта такі "фірменны" знак якасці.

5 жніўня Святлана Іванаўна святкуе свой юбілей. Не ведаем, якую музыку яна выбрала, каб аздобіць гэтае свята. Магчыма нешта з класікі — задуменна-лірычнае, што так адпавядае яе натуры. Або нешта з "авангарда" — філасофскі роздум і эксперымент таксама пасуюць Святлане. А магчыма — народную мелодыю.

А мо і не адгадаем, бо з хатняга прайгравальніка можа прагучаць і нешта гарэзнае, вясёлае, нечаканае — артыкулы Святланы часта іскрацца мяккім, уласцівым толькі ёй, гумарам і досціпам. Але гэты гумар можа трансфармавацца і ў знішчальны сарказм, — калі патрабуецца абарона Яе Вялікасці Музыкі. Многія матэрыялы Святланы выклікаюць такі рэзананс, што варта паразважаць пра спалучэнне ў нашых творчых кабетах якасцяў і Чароўных Дам, і бясстрашных рыцараў.

Святлана Іванаўна Берасцень абрала для сябе "музычны шлях" з дзяцінства. У 1972 годзе скончыла Рэспубліканскі каледж пры Беларускай акадэміі музыкі, па класе тэорыі музыкі, атрымала рэкамендацыю для паступлення ў кансерваторыю. Аднак паступіла ў БДУ на факультэт журналістыкі, спалучыўшы абедзве творчыя стыхіі. Дыпломная праца Святланы называлася "Друк Беларусі і музычнае жыццё рэспублікі". Ужо студэнткай Святлана Берасцень актыўна выступала ў рэспубліканскім друку з праблемнымі артыкуламі, рэцэнзіямі, водгукамі. На працягу трох гадоў праходзіла вытворчую практыку ў стаўбцоўскай раённай газеце "Прамень". На пераддыпломную практыку Святлана Берасцень патрапіла ў рэдакцыю тыднёвіка "Літаратура і мастацтва". Адбылося гэта ў маі 1976 года.

Ад таго часу Святлана Берасцень не развітваецца з "ЛіМам". Уявіць наша выданне без яе матэрыялаў, а рэдакцыю — без рэдактара аддзела музыкі Святланы Іванаўны проста немагчыма. Але дзейнасць Святланы Берасцень не абмяжоўваецца старонкамі роднай газеты. Шмат сіл аддала Святлана Іванаўна і працы на радыё, супрацоўніцтву з іншымі выданнямі. Прапаганда айчыннай музыкі, прапаганда беларускай песні, адлюстраванне і аналіз праблем музычнага жыцця — праца, якая заслугоўвае павагі... І, вядома, уганараванне. Святлана Берасцень мае дыпломы БТА, Ганаровыя граматы Дзяржкамдруку, Саюза журналістаў, узнагароджана Ганаровым Знакам Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь.

Святлана Берасцень — сябра Саюза журналістаў з 1979 г. Пятнаццаць гадоў як уваходзіць у праўленне Беларускага саюза музычных дзеячаў.

Ад усяго сэрца віншуем Святлану Берасцень з юбілеем, зычым творчага плёну і шмат добрай музыкі ў жыцці.

**ПРЫПАМІН**

*Лёс спагадны ўжо хоць бы таму, што мы нарадзіліся і жывём. Толькі не трэба яго прыспешваць. Скажы мне хто-небудзь, што я ўбачу Атлантыку з вышыні дзесяці тысяч метраў, а пасля й Нью-Йорк з вышыні ўжо меншай перад пасадкай у аэрапорце імя Кеназі... Горад кантрастаў. Ад запляванага, з іржавымі трубамі над галавою метро і да падземнага, шматпавярховага і шматколернага мармуровага Ракфелераўскага Цэнтра. І ад дамоў Гарлема з выбітымі вокнамі і слядамі штодзённых бытавых пажараў да пасёлка мільянераў, дзе "ў законе" правіла: з вокнаў твайго дома не павінен быць бачны мой дом. Такі дом у сына майго старога мінскага сябрука, дзе нас з жонкаю пасля пятнаццаці гадоў ростані цёпла сустрэлі. Сына майго сябра калісьці не хацелі прымаць у мінскую аспірантуру пасля заканчэння з чырвоным дыпломам Белдзяржуніверсітэта. Ён западозрыў, што прычына ў "пятым параграфе", пакрыўдзіўся і з'ехаў. Потым штосьці вылічыў па нейкай формуле і штосьці на гэтым грунце прыдумаў для камп'ютэраў. Даведаўся пра гэта Біл Гейтс, запрасіў сына майго сябра на працу і купіў ягоную "прыдумку". Так хлопец стаў мільянерам і пабудаваў дом, з вокнаў якога не відаць суседняга дома...*

*Нібыта тыповая гісторыя нашага часу. Але я не пра гэта. Я пра мой добры выпадак, пра падарунак лёсу.*

*У Амерыцы было шмат сустрэч: з аднакласнікамі і аднакурснікамі — з вінніцкімі ды курскімі, з выдаўцамі і рэдактарамі рускамоўных газет. Адна з такіх сустрэч з землякамі, таварышамі дзяцінства і юнацтва, у доме на Брайтан-Біч за добрай чаркай, пры смачнай хатняй закусі. У размове прыгадалася мне выказванне Янкі Брыля аб тым, што з-за мяжы, дзе ён бываў, лепш пазнавалася Беларусь і яе людзі. Сярод гасцей дома ў гэты вечар была пажылая пара, таксама былыя мінчукі. Яны жыва зрэагавалі на прозвішча Брыля.*

*— Знаёмы з Іванам Антонавічам?*

*— Знаёмы.*

*Мужчына шырока ўсміхнуўся.*

*— А я вучыўся ў адным класе з Валодзем Караткевічам. Быў ягоным сябрам да самай смерці.*

*Гутарку нашу я запісаў, каб дадаць яшчэ хоць некалькі штрышкоў да партрэта унікальнага беларускага пісьменніка, энцыклапедычна адукаванага чалавека, які ведаў і любіў сваю радзіму і ва ўсе часіны нядоўгага свайго жыцця паводзіў сябе смела і па-грамадзянску.*

Навум ЦЫПІС

# СУСТРЭЧЫ Ў АМЕРЫЦЫ ...З КАРАТКЕВІЧАМ

**Урывак з будучай кнігі**



**Навум Цыпіс: — Калі ты пазнаёміўся з Валодзем?**

**Леанід Крыгман:** — У сорак пятым, калі прыйшоў у 7-ы клас аршанскай школы № 1. Валодзя вучыўся там у 8-м. Мне было 13 гадоў, яму — 14. Мы абодва былі худыя і вечна галодныя. Гэта пасля Караткевіч стаў досыць-такі буйным мужчынам, а ў юнацтве не вылучаўся сярод сваіх аднакласнікаў-аднагодкаў нейкімі адметнымі фізічнымі кандыцыямі. Мы тады былі досыць маляўніча апрануты: у "ваенныя" савецкае і зялёнае нямецкае, як зазвычай, на памер-два "больш за сябе". Гэтак быў апрануты і Валодзя.

**Н. Ц. Памятаеш першую сустрэчу?**

**Л. К.** Вядома! Я ўбачыў спачатку вялікую фуражку, якая спаўзала яму на вочы. Калі ён яе падняў, на мяне зірнулі два розных вокі: адно — *шэрае, другое — карае*. Нехта сказаў: "Гэта Валодзя Караткевіч", — сказана было з прыкметнай павагаю.

**Н. Ц. За што ж аднагодкі паважалі падлетка Караткевіча?**

**Л. К.** Я неўзабаве зразумеў, за што. У сённяшніх школах больш за ўсё паважаюць спорт, а ў аршанскай № 1 у 1945 годзе перавагу аддавалі ведам.

Праз нейкі час мы сталі сябрамі, у нашай кампаніі быў Юра Падва. Нас называлі неразлучнай тройкай з 8-а.

**Н. Ц. Чакай, ты ж быў на год маладзейшы, як жа вы апынуліся з Валодзем у адным класе?**

**Л. К.** Гэтая гісторыя крыху драматычная, але й смешная. Матэматыку ў нас выкладала тыповая "вучылка" тых гадоў, якая саромелася свайго беларускага паходжання, і паасобныя словы вымаўляла гэтак старанна па-руску, што яны гучалі карыкатурна. Напрыклад, "дрёбь", "дотрягиваться", "стрях". А Валодзя, калі гучала гэтая "звышруская" мова, паміраў ад смеху. Матэматычка не даравала гэтага, і хоць ён ведаў матэматыку не горш за іншых, паставіла яму двойку. Гэтак ён і застаўся на другі год, а мне — пашанцавала: я займеў сябра.

**Н. Ц. Успомні, толькі без інерцыі сённяшніх ведаў пра Караткевіча, ці праглядваўся ў тым 14-гадовым хлопцы будучы Караткевіч?**

**Л. К.** Ужо тады ён рэзка вылучаўся сярод нас адукаванасцю, жвавым і дапытлівым розумам, выключным пачуццём гумару і сапраўды фенаменальнай памяццю. Мог прачытаць старонку ў кнізе і запомніць яе не на дзень-другі, а назаўсёды.

Са школьных прадметаў больш за ўсё любіў гісторыю і літаратуру. Выкладчыца літаратуры Кацярына Грыневіч, сапраўдная настаўніца, — ёй тады было 28 гадоў, разам з намі выпускала школьны літаратурных альманах, само сабою, рукапісны і ў адным экземпляры. Там Валодзя і "публікаваў" свае вершы. Яны ўжо тады былі на такім узроўні, што многія, хто "забаўляўся" вершамі, перасталі крэмзаць: зразумелі, што справа гэта сур'ёзная і не для ўсіх.

А пісаць ён пачаў у шэсць гадоў. У пяць вывучыўся чытаць, а ў шэсць прыйшлі вершы. Дарэчы, пра адоранасць. Ён і маляваў выдатна. Я бачыў ягоныя сшыткі — усе палі ў малюнках.

Кацярына Грыневіч вяла ў нас і драматычны гурток. Памятаю, паставілі "Рэвізора" — поспех! Нават ездзілі з ім на гастролі. Валодзя іграў Добчынскага, а я — Бобчынскага. Роля ў Валодзі была маленькая, але іграў ён з захапленнем, шмат жэстыкуляваў, імправізаваў. Ужо ў той час ён спрабаваў пісаць п'есы. Неяк Кацярына Іванаўна дала нам хатняе заданне: напісаць сцэнку. Валодзя напісаў п'есу на цэлы сшытак.

**Н. Ц. Вось адкуль "растуць ногі" ягонай будучай драматургічнай і кiношнай дзейнасці!**

**Л. К.** Магу засведчыць, што ў 8-м класе Валодзя напісаў першы варыянт п'есы "Млын на сініх вірах". Кацярына Іванаўна заахвочвала Валодзю, яна разумела яго будучае прызначэнне. А ён плаціў ёй сапраўднай любоўю, нават закаханасцю. Гэта ў падлеткаў бывае — закахацца ў настаўніцу. Мы ўсе былі ў яе закаханыя, але Караткевіч нічога не рабіў "лёгка". І калі ўжо зайшла пра гэта гаворка, прызнаюся ў адной правіне. Мы аднойчы выкралі ў Валодзі сшытак з вершамі, і там былі верш, прысвечаны Кацярыне Іванаўне — прызнанне ў каханні. Калі Валодзя даведаўся пра гэта, справа ледзь не дайшла да бойкі, ён з намі месяц не размаўляў... А з Кацярынай Іванаўнай ён перапісваўся ўсё жыццё.

**Н. Ц. Скончылі школу, — а далей?**

**Л. К.** А далей ён стаў студэнтам-філолагам Кіеўскага універсітэта, а я паступіў у Маскоўскі энергетычны інстытут, і — пачалося наша сваё ў кожнага жыццё. Сустракаліся на канікулах у Оршы, але толькі да



1952 года, і пасля доўгі час не бачыліся... Валодзя працаваў настаўнікам у сельскай школе Тарашчанскага раёна Кіеўшчыны, а я — у Барнауле, потым у Данецку, а ў 1988 годзе з'ехаў у Амерыку...

Але перапісваліся мы з Валодзем 25 гадоў. Скажу табе, я не сентыментальны чалавек, але гэтую перапіску лічу светлай старонкай майго жыцця.

Мы былі па-юначы даверлівыя, разам перажывалі няўдачы і радаваліся поспехам. Памятаю, якое пісьмо я напісаў яму з нагоды першай сур'ёзнай публікацыі — яго доўгі час не друкавалі... І якое ён мне — з нагоды абароны дысертацыі...

**Н. Ц. Змест лістоў быў больш "побытавы" ці "філасофскі"?**

**Л. К.** Быт прысутнічаў інфармацыйна, але ў кожным пісьме была "творчая справаздача" і, амаль у кожным, — абавязкова адзін-два-тры вершы. Спачатку на рускай і беларускай, а пасля толькі на беларускай мове.

**Н. Ц. Ён не тлумачыў табе ў лістах, чаму яго не друкуюць?**

**Л. К.** Я і без тлумачэнняў разумеў прычыну: Валодзя ніколі не ўмеў пісаць "як трэба", адпаведна моманту. Не мог ён пісаць у галодныя гады пра шчаслівае і заможнае калгаснае жыццё. Думаю, што і пад пісталетам не напісаў бы... Калі рэдакцыі вярталі яму вершы, ён пасылаў іх мне, і, магчыма, каму-небудзь яшчэ са сваіх сяброў. З таго, што я атрымаў ад яго яшчэ ў студэнцкія гады ў Маскве, а затым у Барнауле і Данецку, толькі паасобныя былі пазней надрукаваны. Калі чытаў іх, з цяжкасцю пазнаваў — гэта прайшлася па радках рэдактарская рука. Яны адрозніваліся ад арыгінала, як тэлеграфны слуп ад зялёнага дрэва.

**Н. Ц. Ён пасылаў табе свае вершы, каб ты проста прачытаў іх і ўсё?**

**Л. К.** Не, ён патрабаваў, каб я выказаў свае меркаванні і "навёў крытыку". Наконт першага — усё было ў парадку, а наконт крытыкі — не надта, бо я ўсімі ягонымі вершамі захапляўся. У адказ атрымліваў папрокі: мауляў, я не дзеля пахвальбы табе іх пасылаю...

**Н. Ц. Ці сустракаліся вы пасля школы?**

**Л. К.** У 1959 годзе ў Маскве. Валодзя вучыўся на Вышэйшых літаратурных курсах. Тым разам я стаў сведкам дзівоснага выпадку: ён напісаў паэму "Плошча Маякоўскага", як кажуць, не адрываючы пяра ад паперы. Валодзя прачытаў яе за гасцявым сталом, за якім, акрамя мяне і маёй жонкі, было некалькі маладых літаратараў з Сібіры, Літвы, Германіі... Памятаю яшчэ, іркуцкі паэт Рэуцкі чытаў свой верш "Смерць ваўкадава". А Валодзя ў той вечар прачытаў яшчэ верш з рэфрэнам "Ліяфеля, дачка караля" па матывах нямецкай легенды...

**Н. Ц. Ты бачыў яго ў самым пачатку літаратурнага шляху... Як ён пісаў?**

**Л. К.** Часцей за ўсё, адным махам, у адзін прысест, і тут жа правіў сябе, ды гэтак, што старонка чарнела. Але здаралася, што і без адзінай папраўкі, быццам каменьчык выкаціць. Праўда, такое было не часта.

**Н. Ц. Пазней сустракаліся?**

**Л. К.** Некалькі сустрэч было ў Мінску ўжо. Часам я туды трапляў у камандзіроўку. У часе гэтых незапланаваных сустрэч Валодзя быў вясёлы, шмат смяяўся, прыгадваючы школу...

Запомнілася сустрэча ў 1972 годзе, а можа, ў 1973-м? Валодзя прыехаў на таксі, выходзіць з машыны і ледзь не плача... Што здарылася, пытаюся. Ён дастае з машыны рукапіс жахлівага выгляду: мокрую, зліплую, у суцэльных чарнільных рагах і плямах, — Караткевіч пісаў аўтаручкай, — нічога не расчытаць... Выявілася, пераклад "Пана Тадэвуша". "Спецыяльна на два тыдні з'ехаў у Белавежскую пушчу, каб ніхто не замінаў, — зрабіў! Еду да цябе, узяў дзве пляшкі гарэлкі, паклаў разам з рукапісам у партфель, а яны разбіліся... От!"

"У цябе ж такая памяць! — кажу яму. — Сядзь і аднаві!" А ён: "Я за гэтыя дні гэтак вымерхаўся, што ўжо не змагу зноў сесці за гэтую працу... Прынамсі, у бліжэйшы час".

Мы паехалі на кватэру да Барадуліна, там сабралася нямала людзей. Валодзя на нейкі час нас пакінуў, — паехаў сустракаць сваю будучую жонку Валю, а як вярнуўся з ёю, быў ужо вясёлы і жартаўлівы, як заўжды.

**Н. Ц. Што табе падабалася ў ім?**

**Л. К.** Гэтае пытанне няпростае. Ён быў паэтам. Паэтам не толькі таму, што пісаў вершы, — ён гэтак адносіўся да рэчаіснасці. Адсюль і нейкі рыцарскі тып паводзін у побыце, штосьці гусарскае... Калі чынілася несправядлівасць, кідаўся ў бой, не прымаючы да ўвагі нароўнасць сіл. У школе часта акурат з гэтае прычыны хадзіў "з ліхтарамі". Ён, па-мойму, быў несучасным чалавекам, што заляцеў да нас з XIX стагоддзя. А калі б ён жыў там, напэўна, абараняючы свой ці чужы гонар, быў бы забіты на дуэлі. Выбухаў, як бомба, і тады нікога і нічога ўжо не прызнаваў. "Кастуся Каліноўскага на вас няма!" Таму й не любілі яго чыноўнікі і пабойваліся функцыянеры. Памятаю, ён распавядаў, як паклікаў яго Машэраў і прапанаваў нейкі высокі пост чыноўніка ад літаратуры. На што Валодзя адказаў, што гэткая праца не для яго, але, калі б ён згадзіўся на яе, дык і сам прапановец перастаў бы яго паважаць. Чыноўнікаў не любіў, і яны плацілі яму тым жа.

**Н. Ц. Калі вы сустрэліся апошні раз?**

**Л. К.** Улетку 1980-га, і сустрэча гэтая пакінула горкі след. Мы дамовіліся, што я прыеду да яго а пятай вечара. За дзень я гэтак стаміўся, што, прылёгшы адпачыць на паўгадзінкі, праспаў да вечара. Прыехаў да Валодзі, а ён раз'юшаны: "У мяне на гэты час іншыя справы, ты не шкадуеш майго часу! А ў мяне яго месяц-два!.." Выявілася, што улетку, у Крыме, ён, упаўшы са скалы, ударыў галаву, і нейкі ўрач сказаў, што жыць яму засталося пару месяцаў. "А я павінен яшчэ паспець зрабіць процьму рэчаў. Гэтага ніхто не хоча зразумець. От і ты..." Потым ён супакоіўся, і мы нават выпілі з ім за сустрэчу, але заўсёднай сяброўскай атмасферы так і не ўзнікла...

Больш мы не бачыліся. Засталася памяць пра яго і вершы, якія ён слаў мне ў пісьмах тады, калі яго яшчэ не друкавалі...

*Вось так сустрэўся я з Уладзімірам Караткевічам у Амерыцы. Такі вось дарунак зрабіў мне лёс.*

*Пасля размовы з Леанідам Крыгманам мне таксама прыгадалася...*

*Прачытаўшы маю першую кніжку, якая, паводле яго слоў, нагадала яму родную Оршу, ён прапанаваў мне: "Хочаш, я дам табе рэкамендацыю ў Саюз пісьменнікаў. — І дадаў: — Але ты павінен ведаць, што мяне ў саюзе не любяць, і гэтая рэкамендацыя затрымае тваё паступленне". Калі мяне абмяркоўвалі на секцыі прозы, Караткевіч прыйшоў і ў цудоўнай вострай і едкай прамове разграміў маіх апанентаў. У нейкай ступені гэта прадвызначыла адмоўнае галасаванне. Валодзя падышоў да мяне і, смеючыся, сказаў: От, бачыш, як можа быць?! Але затое мы ім увалілі! Не засмучайся, пісьменнік вызначаецца не членствам".*



Фота А. КАЛЯДЫ

**ЗАХАРАВА, 19**





# НА ХВАЛЯХ БЕЛАРУСКАГА РАДЫЁ

**Аўтарская праграма Галіны Шаблінскай "Палітра" на першым нацыянальным тэлеканале вызначаецца шырокім дыяпазонам узнятых тэм, глыбінёй аналізу, высокім прафесіяналізмам. У бліжэйшых выпусках аўтарскай праграмы Г. Шаблінскай яе суразмоўцамі будуць Рыгор Барадулін, Ірына Жарнасек, Людміла Рублеўская. Слухайце "Палітру" ў чацвер, у 22.30. У гэты ж час у іншыя дні гучаць аўтарскія праграмы "Брама", "Авансцэна", "Сентыментальнае паляванне".**

**У "Літаратурным праспекце" ў суботу, у 10.45 прагучыць расповед пра падрыхтоўку да Дня беларускага пісьменства ў Полацку.**

**Як заўсёды, разнастайна і цікава будзе прадстаўлена літаратура на канале "Культура". У "Клубе дамаседаў" будзе працягнута чытанне рамана Янкі Брыля "Птушкі і гнёзды". "Літаратурны аўторак" будзе прадстаўлены праграмамі "Натхненне", "Гаспода" і іншымі. У нядзелю — "З фондаў радыё". Я. Шабан "Востраў Алены". Спектакль. Пачатак у 19 гадзін.**

**Н. К.**

## УВАГА!

**Суполка маладых творцаў "Літаратурны квартал" збіраецца 7 жніўня, а 18 гадзіне, у рэдакцыі "ЛіМа".**

напісаны якраз, як нам здаецца, з улікам будучага спектакля".

Істотнай асаблівасцю драматургічнага стылю А. Бычкова з'яўляецца эксперыментальнасць: пісьменнік перыядычна разбурае "чацвёртую сцяну", якая, паводле прынцыпаў класічнай тэатральнай эстэтыкі, павінна нябачна падзяляць сцэну і публіку, звяртаецца непасрэдна да гледачоў, заклікае іх да своеасаблівага дыялога.

Праўда, справа гэта досыць рызыкоўная: дзіцячая аўдыторыя – з'ява спецыфічная. Маленькія гледачы, могуць нарабіць і лямантy, значна ўскладніўшы работу акцёрам. Зрэшты, усё залежыць ад прафесійнасці выканаўцаў ролі і іх умення працаваць з гледачамі-дзецьмі. А ў агульным плане (псіхалагічным, педагагічным і нават відовішчным) такі эксперымент выглядае вельмі прывабна. Ім забяспечваецца актыўнасць успрымання, што немалаважна ў працы з дзецьмі. Яны адчуюць сябе не проста гледачамі, а сапраўднымі ўдзельнікамі дзеяння. І ўсё ж у "гульні-п'есе" "Подарочные мышки", на наш погляд, эксперымент атрымаўся дужа рызыкоўным і спрэчным як з мастацкага, так і з псіхалагічнага пунктаў гледжання. У гэтым творы драматург, апрача дыялога персанажаў з гледачамі ў пачатку спектакля, разыгрывае тры варыянты фіналу, а ў канцы прапануе дзецям выбраць найлепшы.

Па-першае, не ўсе дзеці могуць зразумець, што такое "фінал". Паняцце гэтае з ліку тэрміналагічных, досыць спецыяльнае і ў агульнаўжывальную лексіку не ўваходзіць. Па-другое, аналітычная задача выбару з трох варыянтаў для малодшых школьнікаў – справа складаная. Нават запомніць гэтыя тры фіналы, думаецца, для іх будзе не так проста.

Больш за тое для выбару дзецям неабходна будзе запомніць не толькі вынік, а і падзейную логіку, сюжэт, змест кожнага варыянта. Відаць, няпростая задача для малодшых, а старэйшыя, дзеці сярэдняга школьнага ўзросту, такімі "несур'ёзнымі" справамі, як выбар, ды прыдумванне, ды ліставанне, наогул займацца наўрад ці захочуць. Хаця ў цэлым ідэя "гульні-п'есы", на наш погляд, вельмі перспектыўная. Гэта плённы шлях пошуку актывізацыі эстэтычнага і этычнага ўздзеяння на маленькіх гледачоў. А, як вядома, хто шукае, той абавязкова знаходзіць.

Добрыя дзіцячыя п'есы атрымаліся ў Аляксея Міхайлавіча Бычкова. Жывыя, дасціпныя, разнастайныя паводле зместу і формы ўвасаблення, у нечым пошукавыя, багатыя на музычнасць і песеннасць. Цудоўны драматургічны матэрыял для яркіх і відовішчных пастановак. Будзем спадзявацца, што Міністэрствы адукацыі і культуры заўважаць і належным чынам ацэняць мастацкія і рэпертуарныя вартасці п'ес А. Бычкова. Тым больш, што згаданыя ўстановы, разам з Рэспубліканскім цэнтрам эстэтычнага выхавання дзяцей, маюць каштоўны вопыт у выданні твораў дзіцячай драматургіі. А мы, чытачы і гледачы, будзем чакаць новых твораў таленавітага акцёра, спевака, рэжысёра, а цяпер і драматурга, Аляксея Бычкова.

**Зміцер МАМАЧКІН**

---

Але яму і гэтага недастаткова — ён сягае неспакойнымі думкамі ў занябессе: павінен жа менавіта там існаваць Вышэйшы Розум. І ў паэта жыве спадзеў атрымаць больш-менш вычарпальныя адказы на шмат якія вострыя і хвалюючыя пытанні.

Я неаднойчы задумваўся: хто і калі ў нас размаўляе па-беларуску? Усе старающа "русачыцьб" — ад калгаснага брыгадзіра да міністра-гаспадарніка. Хіба такое характэрна, скажам, для тых жа Літвы, Эстоніі, Грузіі, Казахстана? Руская і беларуская мовы для шмат якіх беларусаў як два касцюмы: лепшы — для ўрачыстых момантаў, горшы — для паўсядзённага ўжытку. Некаторыя вучоныя пішуць вельмі ж узо мудрагелістыя артыкулы, а моўная сітуацыя ніколькі не змяняецца ў лепшы бок. Пабылі б яны ў калгасе на планёрцы. Божа, што там чуецца! Ды што вёска: вунь некаторыя дыктары радыё і тэлебачання, журналісты не вывучылі дасканала нават школьнай граматыкі: ні рускай, ні беларускай. Мікалай Вініцкі звяртаецца да людзей з гарачым, разлічаным на ўзаемаразуменне заклікам:

*Не будзь для мовы роднае старонным,*
*Прад памяццю дзядоў, бацькоў засвой*
*Санеты ейны лад — напеўны, стройны...*

Паэт просіць Святую Маці прабачыць яму,"... калі не вынаходзіў слоў, каб абязболіць Пухліны зрэз пакутлівай Зямлі..." І ўсё ж, нягледзячы на трывожны роздум аб нашым такім неспакойным і далёка неўладкаваным жыцці, ён з аптымізмам глядзіць у будучыню:

*Ды, акрыяйце, мужныя сыны,*
*Сіл набірайцеся хутчэй, унукі!.. —*
*Надзея ёсць на зорыстасць вясны.*

*Яе прышэсце закране ваш лёс:*
*На тое дадзены вам розум, рукі.*

**Аркадзь НАФРАНОВІЧ**

---

**СТАСУНКІ**

# САЮЗ ПРАЗ ТАЛЕНТ І ЕДНАСЦЬ ДУШ

***Я нарэшце трымаю ў руках гэтую прыгожую кніжачку "Непагасны агонь. Непогасний вогонь", у якой украінскія паэты гучаць па-беларуску, а беларускія — па-украінску. Пра згаданы зборнік ужо нямала добрага ведаў як ад калег-крытыкаў, так і ад перакладчыкаў, паэтаў. Там-сям чытаў пра яго і ў друку, неаднойчы чуў па радыё. І вось гэтая кніжачка ў мяне з даравальным надпісам яе аўтара Валерыя СТРАЛКО.***

З цікавасцю аглядаю яе, гартаю, недзе крыху чытаю, у іншых месцах проста зачытваюся... І раптам пачынаю разумець, што ўзяцца за яе стварэнне мог толькі чалавек смелы, смелы і мужны, які моцна ўпэўнены ў сваіх творчых магчымасцях, у тым, што задуманае абавязкова ажыццявіцца.

Сапраўды, неабходна немалая смеласць (а то і дзёрзкасць), каб узяць для перакладаў шырока вядомыя творы ўкраінскіх і беларускіх класікаў, якія ў свой час неаднаразова пераўвасабляліся іншымі майстрамі Украіны і Беларусі. І, безумоўна ж, не меншая патрэбна ўпэўненасць, што цябе пасля зробленага належным чынам ацэняць, не знойдуцца ахвотныя пасмяяцца, успрыняўшы звычайным авантурыстам, які замахнуўся на такія аўтарытэты: з украінцаў — Тарас Шаўчэнка, Леся Украінка, Іван Франко; з беларусаў Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч.

Захацелася разабрацца, хто ж ён такі — В. Стралко, аўтар (а перакладчык, калі пераўвасабленне зроблена па-майстэрску, з'яўляецца не толькі сааўтарам) і складальнік гэтай агнявога колеру кніжкі з такой арыгінальнай назвай, якая тым не менш, як упэўніўся пазней, вельмі дакладна падыходзіць да змешчанага пад вокладкай.

Даным сакрэтамі таленту. Нярэдка бывае і так, што да пары-да часу талент гэты дрэмле, чакаючы таго моманту, калі зможа раскрыцца ва ўсёй паўнаце. Менавіта так сталася з В. Стралко.

Не рэалізаваныя патэнцыяльныя магчымасці літаратурнага даравання нечакана выліліся гэтак магутна і хутка, што нагадвалі сабой хуткаплынную, вірлівую раку, якой цесна ў ранейшых берагах і яна настойліва шукае новае рэчышча, а такім руслам для В. Стралко і стала яго перакладчыцкая дзейнасць. Дарэчы, ягонае з'яўленне на літаратурным небасхіле адзін знакаміты беларускі перакладчык, знаўца многіх моў, параўнаў з метэорам.

Сапраўды, менеj чым за два гады пасля першых публікацый ён, так упэўнена заявіўшы аб сабе, амаль адначасова быў прыняты ў Нацыянальны Саюз пісьменнікаў Украіны і Саюз беларускіх пісьменнікаў. Безумоўна, пры гэтым не магла не сказацца вялікая эрудыраванасць Валерыя Васільевіча — якая немагчымая без цудоўнага ведання лепшых набыткаў прыгожага пісьменства, а В. Стралко — найперш выдатны знаўца трох славянскіх літаратур — роднай яму ўкраінскай, а таксама беларускай і рускай. І, вядома ж, асаблівa паэзіі.

Калі ж абудзіўся талент, дык і захацелася перакладаць. Аднак пераўвасабляць не ўсё, што трапляе пад руку, а тое, што з'яўляецца лепшымі набыткамі пэўнай літаратуры. У прыватнасці, з украінскай мовы пераклаў на беларускую асобныя творы Барыса Алейніка, Івана Драча, Ліны Кастэнкі, Алеся Лупія, Леаніда Горлача, Міхайлы Шаўчэнкі і іншых аўтараў. З гэткага ж жадання — перакладаць, што нельга не перакладаць — нарадзілася і кніга "Непагасны агонь. Непогасний вогонь".

Чым уважлівей учытваешся ў яе, тым часцей ловіш сябе на думцы, што В. Стралко не проста звярнуўся да творчасці паэтаў, якія на літаратурным небасхіле дзвюх братніх — украінскай і беларускай — літаратур ззяюць сузор'ямі першай велічыні. Ён, а гэта таксама на-

Цікава і тое, што, дзякуючы В. Стралко, беларускія і ўкраінскія паэты ў асобных выпадках быццам вядуць між сабой творчую пераклічку, а гэта вынік таго, што нашы літаратуры вельмі блізкія, у іх шмат агульнага, а пэўная блізкасць матываў пацвярджае, што сапраўдная паэзія заўсёды моцная сваімі агульначалавечымі пачаткамі, а лучнасць да фальклорнай асновы надае ёй асаблівую танальнасць і непаўторнасць, нейкую праніклівую лірычнасць і здзіўляючую песеннасць.

Як у знакамітым купалаўскім вершы "Явар і каліна", пры перакладзе якога В. Стралко ўдалося перадаць усю адметнасць арыгінала і разам з тым напоўніць вядомыя радкі ўкраінскім каларытам:

*Піснею мрій лебединою,*
*Скинувши зимні чари,*
*Шепчуться явір з калиною*
*В долі сумному над яром.*

*Зеленню листя пишається,*
*Дякує небу кивками,*
*Росами зранку вмивається,*
*Пеститься сонцем ласкавим.*



Дык вось, былі, вядома, прычыны, але ж і смеласць, каб у няпоўныя семнаццаць са срэбным медалём за дзесяцігодку рынуць з роднай Чарнігаўшчыны ў незнаёмы Херсон, на суднабудаўнічы завод, за кароткі час стаць класным зваршчыкам, нядрэнным суднаскладальнікам, а калі спатрэбілася, і кранаўшчыкам — авалодаць усімі вядучымі прафесіямі корпуснага цэха.

Не абышлося без рашучасці і смеласці, каб трапіць служыць на адзін з лепшых караблёў Чарнаморскага флоту — эсмінец "Сообразительный"(Алесь Пісьмянкоў з Навумам Гальпяровічам з задавальненнем і добрай усмешкай толькі так і называюць, нават у вочы, Валерыя Васільевіча), хоць здароўе не надта спрыяла гэтаму, з-за чаго ў рэшце рэшт і камісавалі.

А потым неяк, ужо на заводзе, сарваўся ў трум, і разбіўся моцна, была складаная аперацыя. Так што пасля заканчэння вячэрняга суднамеханічнага тэхнікума паспытаў і беспрацоўя. І не пабаяўся пайсці ў васьмігодку падменным настаўнікам чарчэння, нямецкай мовы і геаграфіі, у глухой вёсачцы на Херсоншчыне з прэтэнцыёзнай назвай Новасібірск. Сябры, даведаўшыся пра гэта, жартавалі: "А мы ўжо думалі, ты ў Сібір падаўся..." Гэта неяк закранула яго, і калі скончыўся тэрмін падмены, не пабаяўся махануць у Сібір, у вялікі, "сапраўдны" Новасібірск, дзе ўладкаваўся ў Інстытут ядзернай фізікі. Там, у навасібірскім Акадэмгарадку жыў амаль дзесяць гадоў. Закончыў завочна мясцовы электратэхнічны інстытут, працаваў у лабараторыі прыкладной кібернетыкі Інстытута гідрадынамікі, пакуль не быў запрошаны, як вопытны спецыяліст, у Мінск, дзе шмат гадоў займаўся распрацоўкай і ўкараненнем аўтаматызаваных сістэм кіравання і інфармацыйных сістэм у галіновых навукова-даследчых інстытутах.

Даведаўся я, што былі ў жыцці В. Стралко і далёкія заплывы ў адкрытае мора, і складаныя працаглыя лыжныя паходы, і катанні на горных лыжах у Карпатах, і скачкі з парашутам, і 13 гадоў маржавання на Камсамольскім возеры ў Мінску, і паездкі "на шабашку" за Палярны круг. Вось яна, смеласць...

Але як жа з творчасцю? Адкуль гэта ў яго? А адтуль, што называецца неразга-

дзвычай важна, выбраў для пераўвасаблення творы, якія найбольш характэрныя для канкрэтнага аўтара. А гэта сведчанне не толькі начытанасці В. Стралко, а і ягонага бездакорнага мастацкага густу ўвогуле, а тым больш — густу паэтычнага.

Безумоўна, куды лепш, чым з творчасцю Т. Шаўчэнкі, Л. Украінкі, І. Франко, я знаёмы з напісаным Я. Купалам, Я. Коласам, М. Багдановічам. Адгортваю кнігу, і, калі ласка, у ёй змешчана акурат тое, што найбольш прываблівае мяне ў кожным з іх.

Для прыкладу, спашлюся на М. Багдановіча. Якія б вам хацелася прачытаць вершы Максіма-Кніжніка па-ўкраінску? Безумоўна, славутую "Пагоню". Несумненна, "Раманс" ("Зорка Венера"), а яшчэ творы, у якіх хораша апяваецца харaство прыроды. Усе яны і мне падабаюцца. І ўсе, дарэчы, ёсць у кнізе. І гэтак па-майстэрску пераўвасоблены, што ўражанне такое, нібыта яны і з'явіліся з-пад пяра М. Багдановача па-ўкраінску.

Узяць хоць бы гэты:

*Теплий вечір, тихий вітер, свіжий стіг,*
*Ви поклали мене спати на землі.*
*Не курить пилюка світла вдовж*
*доріг,*
*В небі місяця блідого блимнув ріг,*
*І зоря розквітла в хмарки на крилі.*

*Зірка бликнула, у тиші чарівній*
*Прошуміла й зачаїлася сова:*
*Видно, злитому з природою, мені,*
*Як тремтять од вітру зорі в вишині,*
*Чую в тиші , як росте трава.*

А хіба "беларуская" Л. Украінка не ўспрымаецца так хораша, натуральна, нязмушана, як і ў арыгінале?! Каб упэўніцца ў гэтым, дастаткова прывесці тaкія радкі аднаго яе верша з цыкла "Мелодыі":

*Ночка ціхай і цёмнай была.*
*Я стаяла, мой дружа, з табою,*
*На цябе я глядзела з журбою;*
*Ночка ціхай і цёмнай была...*

*Вецер сумна па садзе блукаў,*
*Ты спяваў, а я моўчкі сядзела,*
*У мяне песня ў сэрцы звінела;*
*Вецер сумна па садзе блукаў...*

А чытаеш па-беларуску Т. Шаўчэнку, і гэтаксама ўсцешна і хораша на душы. Кожнае слова ў перакладзе да месца, а разам узятыя, яны нараджаюць светлы малюнак, у якім усё знаёмае, блізкае, дарагое. Яно, канечне, найперш украінскае, але гэта і беларускі малюнак:

*Цячэ вада з-пад явара*
*Ярам на даліну,*
*Красуецца над вадою*
*Чырвона каліна.*
*Красуецца каліначка,*
*Явар маладзее,*
*А навокал вербалозы*
*Й лозы зеляneюць.*

Падобных прыкладаў, калі пераклад радуе не менш, чым арыгінал, можна прыводзіць бясконца, бо каторы твор у кнізе ні возьмеш, пераўвасабленне настолькі дасканалае, што хочацца чытаць і перачытваць надрукаванае. Разумееш, што часам напачатку ўсю адметнасць улавіць немагчыма і толькі пакрысе, калі ўражанні ўлягуцца, і выступіць на першы план тое важнае, з чаго і складаецца майстэрства, паўстане перад табой уся гармонія пераўвасобленага В. Стралко паэтычнага слова.

Мы часта гаворым апошнім часам пра саюз славянскіх народаў, пра тое, каб не парываліся карані, якімі на працягу стагоддзяў жывілася сяброўства беларускага, рускага і ўкраінскага народаў. Ды саюз — гэта аб'яднанне палітычнае. А ёсць і іншае кантактаванне: агульнасць стасункаў, калі свайго роду саюзам становіцца еднасць душ і духоўных памкненняў.

Якраз гэтаму і спрые таленавітая кніга В. Стралко. Падкрэсліваю: кніга В. Стралко. Бо хоць і сабраны пад адной вокладкай творы некалькі паэтаў, не толькі яны з'яўляюцца аўтарамі напісанага, а і перакладчык, які выступае на роўных з выдатнымі майстрамі паэтычнага слова.

Кніга "Непагасны агонь. Непогасний вогонь" — з'ява на перакладчыцкай ніве, а калі глядзець шырэй — і з'ява ў галіне беларуска-ўкраінскіх узаемасувязяў і стасункаў. Як на маю думку, дык тое, што зроблена Валерыем Стралко, варта ўшанавання высокімі ўзнагародамі нашых дзяржаў.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

Анатоль ЗЭКАЎ

## АДЗІНЫ ГРЫБНІК НА СЕЗОН

Калі ў першую паслячарнобыльскую восень у тутэйшых мясцінах забаранілі збіраць грыбы, напалоханыя радыяцыяй вяскоўцы і вачэй у лес не паказвалі. Хіба што стары Яўхім на тыя перасцярогі ніколі не зважаў: як і дагэтуль, кожную раніцу ў любое надвор'е кошык у рукі — і гайда наперад. Прынамсі, ягнэ і лацвей, што ніхто пад нагамі не блытаўся ды паперадзе не галёкаў: усе грыбы былі яго.

Праўда, доўжылася гэтае шчасце для грыбніка адзін толькі сезон. У наступную восень гаі і дубровы зноў ажывіліся людскімі галасамі. І забароны нібыта не здымалі, а ў каго не запытаеш, заўсёды адно чуеш:

— Хлусня ўсё гэта наконт радыяцыі. Вунь Яўхім летась не паслухаўся. І што? Памёр хіба? Ды не. Затое грыбочкаў наеўся ад пуза. Не тое, што мы, — і як бы супакойваючы сябе: — Нічога, цяпер і самі з вусамі...



## АДЖЫЎ І АДЖАЎ

Да Міколы прыехаў на камбайне сваяк, каб зжаць невялікую палоску жыта. Убачыў сусед Іван, прыбег папрасіць камбайнёра завітаць і да яго. Дамовіўшыся, пайшоў дахаты — мяхі рыхтаваць. Ды раптам так схапіла сэрца, што на тых мяхах і смерць прыспела.

Аджыў сваё Іван. Як і аджаў.

## БАЯВЫ ПРАЦАЎНІК

Не ладзіцца штосьці жыццё ў Манькі з Мішкам. Добра, калі б сваркамі канчалася, а то ж ягнэ і б'еца. Іншы раз так адлупцуе, што, здаецца, месца жывога на ёй няма.

— Кінула б ты яго. Гэта ж не жыццё ўвесь час з сінякамі хадзіць, — раіць суседка.

— Ой, цётачка, а хто ж мне рабіць што будзе? Ён жа такі працавіты, такі працавіты. А б'ецца хіба калі вып'е...

П'е Мішка амаль праз дзень-другі.

## «ПАМОЧНІК»

П'яны на карачках: спрабуе стаць на ногі, ды ўсё не атрымліваецца. Міма ідзе жанчына, у руках якой цяжкія валізкі — аж долу гнуць. П'яны небарака глядзіць на яе знізу ўверх і, яўна спачуваючы, пытае:

— Можа, памагчы?

## «ЛІМОНЧЫКАМ ЗАКУСВАЙ...»

Адзін мой знаёмы, калі часам збіраліся ўзяць бутэльку гарэлкі, звычайна наказваў ганцу:

— Не забудзь купіць лімон.

А пры выпіўцы раіў:

— Лімончыкам трэба закусваць, лімончыкам. Тады не так п'янееш.

...Аднойчы мы апынуліся за адным сталом, які проста-такі ламіўся ад яды. Чаго там толькі ні было!

Заўважыўшы, як мой знаёмы адно што і тыцкаў відэльцам то ў каўбаску пальцам пханую, то ў бальчок ды шашлычок (а былі ж на стале і лімоны), я бышцам незнарок штурхнуў яго пад бок:

— Лімончыкам трэба закусваць, лімончыкам...

— Эх, варона няўцямная, нічога ты не разумееш, — захітаў галавою знаёмы. — Лімончыкам закусваюць тады, калі мяса няма. Вось так, даражэнькі, — і пацягнуўся за чарговым кавалкам скаромінкі.



# ХТО МЫ АДЗІН АДНАМУ

Аксана СПРЫНЧАН



Усевалад ГАРАЧКА



*А. — На першае прачытанне*
*верш аддаю*
*грубцы.*

*Мала хто можа прачытаць*
*з такім натхненнем.*

*У. — Падары свайму вершу*
*твар,*
*каб яго ныя вочы*
*глядзелі ў мае,*
*каб яго не забыўся.*

*А. — У кожнага верша,*
*напісанага мною —*
*свой твар.*
*Мае —*
*толькі маршчынкі.*

*У. — На кавалачак лёду*
*(маё сэрца)*
*трапіў сонечны промень —*
*не растапіў,*
*але нарадзіў блікі —*
*зайграў вясёлкаю верш.*

*А. — Не кожны сыграе*
*на сяміструннай вясёлцы*
*санату суму,*
*стамлёнага самім сабой.*

*У. — Хочаш*
*саскочыць з цягніка будняў*
*хоць куды,*
*хоць*
*у калюгу кахання.*

*А. — Толькі ў цягніку будняў*
*не люблю пералічваць*
*вагоны...*

*А. — Паміж лужын блукаем.*

*Сумуюць*
*без крокаў кахання...*

*Ну няўжо мы не знойдзем*
*хоць лужынку спагады*
*і не пройдзем*
*па зорнай калюзе...*

*У. — Тое,*
*чаго ты няспынна шукаеш,*
*мяне*
*час ад часу*
*знаходзіць само.*

*У. — Хто мы адзін аднаму?*
*Камяні?*
*Агніва*
*у чыіхсьці руках?*

*Паміж намі*
*нараджаюцца іскры —*
*вершы.*
*І хто зможа адрозніць:*
*дзе — твае,*
*дзе — мае.*

*А. — У царкве,*
*дзе твой голас*
*шукае Неба,*
*моўчкі малюся*
*за нас.*

*А. — Столькі грахоў,*
*што і пекла не страшна.*
*Страшна,*
*калі і там*
*па несправядлівасці*
*ці памылкова*
*некага за мяне*
*адправяць у апраметную.*

*У. — Калі б мы былі дзецьмі,*
*што нечакана распалілі агонь, —*
*мы б згарэлі.*
*Але —*
*мы далёка не дзеці.*
*Таму*
*падыходзьце да нашага*
*вогнішча —*
*слухайце вершы.*

*А. — Імгненні*
*мятлушкамі*
*ляцяць на святло*
*нашага вогнішча.*
*І ні ты, ні я*
*не можам змяніць*
*іх лёс —*
*згарэць,*
*каб уваскрэснуць*
*вершамі...*

*А. — У тваёй руцэ*
*маёй так цёмна,*
*што лініі лёсу*
*бачаць у сне*
*дзяцінства...*

*А. — Сакавік, нібы кот,*
*разрывае сны*
*стогнам параненага снегу,*
*сокам уваскрэслых дрэваў,*
*шчасцем птушак,*
*што пазбавіліся настальгіі,*
*сустрэчай з табой...*

*У. — Я б мог прысвячаць*
*табе вершы,*
*гэтак як іншым*
*дараць букеты кветак,*
*але баюся,*
*у іх таксама не будзе карэння,*
*і хутка завянуць.*

*А. — Кветкі, якія мне дораць,*
*часам пускаюць карэнне*
*і жыць застаюцца...*
*А некаторыя паміраюць,*
*каб застацца...*
*у маіх вершах.*

*У. — Твае вершы —*
*пераменлівыя карункі*
*на аркушы неба.*
*Можа, яны і прыгожыя,*
*але*
*хто не глядзіць пад ногі —*
*спатыкнецца.*

*А. — Неба*
*ў шнарах ад птушак*
*бінтуюць аблокі.*
*Калі ж ад крыві чарнеюць —*
*маланак чырвоныя шнары*
*забіраюць*
*балючасць палёту...*

*А. — З аркушам*
*колеру апошняга снегу*
*галка ходзіць,*
*думае над стварэннем*
*асноўнага твора жыцця —*
*гнязда.*

*На белых аркушах —*
*чорныя гнёзды*
*нашых вершаў.*

*У. — Ты нарадзіла*
*столькі прыгожых вершаў,*
*як дрэва*
*ўвосень*
*жоўтых лістоў.*

*А. — Восень.*
*Вершы ляцяць,*
*як жоўтыя лісты...*
*Самыя прыгожыя*
*не чарнеюць...*
*у тваёй памяці.*

*У. — І вартае і благое*
*спаліць агонь.*
*Калі прачытаў твае вершы,*
*на паперы*
*засталася жменька ўласных.*
*Попел?*



# ДЗЁННІК (1+1=1)

Кацярына СІДАРУК



Мы сядзім на абрыве, звесіўшы ногі ўніз. Там, унізе, па россыпу маленькіх каменьчыкаў бяжыць звонкая рэчка, а за ёй ледзь чутна шапаціць лясок. Сонца ўжо спаўзло некуды назад, за нашыя спіны, і абрыў цямнее з кожнай хвілінай. І ты маўчыш побач.

Паветра нерухомае, толькі звіняць унізе камары. Яны пакуль не ўзняліся да нас, але іх ужо чуваць.

Неба з белаватага даўно стала цёмнасінім. Яшчэ крыху — і на ім з'явяцца зоркі. Тады можна будзе адкінуцца на спіну, ляжаць, гледзячы ўгору, і слухаць музыку начнога неба. Разам з табой. А памятаеш, як мы прыйшлі сюды ўпершыню? Ты быў сярдзіты, таму што я адарвала цябе ад любімых відэакасет і тэлевізара, цягнула праз увесь горад і ўсё дзеля таго, каб сядзець на вільготнай зямлі, дзе поўзаюць мурашкі... І гэта замест таго, каб адпачыць "па-чалавечы" — паглядзець якую-небудзь касетку, пачытаць, у рэшце рэшт, проста паспаць!

Ты вытрымаў не болей дзесяці хвілін, пасля чаго я даведалася аб шматлікіх і разнастайных дыягназах, якія мне можна паставіць...

Але праз тыдзень, калі ты дабраўся дадому практычна без сіл, з пачырванелымі вачыма, сам папрасіў, каб я адвезла цябе туды, дзе мы былі, ты ж памятаеш... І доўга сядзеў пад маладзенькім дубком, зябка хутаючыся ў плашч...

Зараз мы ездзім сюды часцяком і незалежна ад надвор'я. Доўга сядзім ля адхону, ці пад нейкім дрэвам. Бывае, што ты неўсвядомлена бярэш маю руку і пачынаеш яе пагладжваць. Калі я адхінуся, узнімеш на мяне адсутныя вочы і папросіш прабачэння — ты не заўважыў... Я ведаю. Таму часцей за ўсё не рухаюся. Тым больш, што я люблю дакрананні тваіх далоняў. Часам ты ідзеш па схіле ўніз. Ідзеш надоўга. Я ніколі не хаджу за табой. А ты, вярнуўшыся, часцей за ўсё пачынаеш ліхаманкава збірацца — дадому, бо час ужо... І хаваеш твар. А я маўчу і ніколі не пытаюся, чаму ў цябе зноў пачырванелі вочы...

Сёння мы ўжо амаль тры гадзіны сядзім на гэтым абрыве. Кідалі ўніз каменьчыкі, потым ты, як заўсёды, задумаўся, зазірнуў у сябе, ды там і застаўся. За рачулкай з лесу выскачыў заяц. Ад нечаканасці я здрыганулася. Ты адарваўся ад роздуму, схапіў мяне за руку. Спужаўся, што звалюся? Не, усё ў парадку; там заяц, бачыш? Ты пагляздеў, усміхнуўся.

Ужо зусім сцямнела.

— О, ноч амаль што, а мы ўсё сядзім. Не змерзла? Давай дадому.

Дапамог мне падняцца, але зноў ужо далёкі... І ўсю дарогу глядзеў у агні машыны, якая ехала наперадзе, бы загіпнатызаваны.

Вось і твой дом. Ты маўчаў, быццам спрабуючы наважыцца на нешта... А паркоўка тут забароненая!

— Куды ты зараз?

Паціскаю плячыма:

— Дамоў... Куды ж яшчэ?

— Ты магла б сёння затрымацца?

Я моўчкі ківаю. Сам жа абумовіў — ненармаваны працоўны дзень.

— Давай вунь туды.

Падземны гараж. Ты нешта кажаш ахоўніку, нас прапускаюць. Падымаемся ў тваю кватэру. Каторы ўжо раз кажу сабе, што не змагла б жыць у такой агромністай. Адна. Пакоі, пакоі; цёмныя вуглы, у якіх часам з'яўляецца твой дог, Бакс, памахвае хвастом і зноў нячутна знікае.

Глядзіш на мяне і пачынаеш дзелавым тонам:

— Я б хацеў, каб ты зрабіла... Не... Уласна кажучы... я хацеў папрасіць, каб ты сёння засталася тут. Застанешся?

Я не магу стрымаць усмешку: "Вядома", а сама ў думках праклінаю дзень, калі ты ўзяў мяне на работу. Але працягваю ўсміхацца. Усміхацца табе.

Ты пайшоў у спальню. Я — у самы маленькі пакойчык для гасцей (у мяне ўся кватэра такога памеру)...

За вакном цёмна. Ліхтары на вуліцы чамусьці не гараць.

Няма зорак. Смог вісіць над горадам і над людзьмі.

Доўга не магу заснуць; і больш чым упэўненая, што ты таксама сядзіш, свідруючы позіркам цемру, альбо ходзіш па пакоі, блытаючыся ў дыме чарговай цыгарэты. А я нічога не магу зрабіць, пакуль ты мне не дазволіш...

Я ўсё ж такі задрамала. Пабудзіў мяне цыгарэтны дым. Ты сядзіш у крэсле з заплюшчанымі вачыма. Невядома, як я бачу цябе ў амаль поўнай цемры? Пры святле цыгарэты?

— Пабудзіў цябе? Прабач.

— Я не спала.

Ты маўчыш. Я — таксама. Сказаць няма чаго.

Дзень выдаўся мітуслівы, таму я ўвесь час звальваюся ў лёгкі сон. А, расплюшчваючы вочы, бачу цябе ў крэсле і пасы дыму...

Шэсць гадзін. Я звыкла ўскідваюся. Ты ў тым жа крэсле з прапаленай абіўкай — у цемры не заўсёды трапляў у попельніцу, якая ўжо даўно апынулася на дыване... Мяркуючы па россыпу недакуркаў, ты супакоіўся толькі раніцай. У пакой няма чым дыхаць, таму я спачатку адчыняю вакно, накідваю на цябе коўдру і толькі потым апранаюся. Збіраю твае недакуркі, попел... Ненавіджу твае цыгарэты... Іду гатаваць снядак, хаця дакладна ведаю, што ты выйдзеш у лепшым выпадку апоўдні.

Твая пасцель неразабраная, а колькасць недакуркаў перавышае ўсе магчымыя і немагчымыя нормы. Збіраю ўсё тваё курава і хаваю ў шафу. Будзеш злавацца, але цыгарэт сёння больш не атрымаеш. Я ведаю, чым гэта пагражае мне. Хутчэй за ўсё, я апынуся на вуліцы...

Але я лічу за лепшае быць на вуліцы, чымсьці на тваім пахаванні... Чаму?..

Хто ведае...

На небе ў карунках мар вісіць агромністы мядзяк чырвонага золата. На цябе падобны. Здалёк — мядзяк. Прыгледзешся — золата. А звычайна бывае наадварот...

Не, ты, зразумела, зусім не падарунак, але...

Загаласіў тэлефон. Цікава, каму ж гэта ўначы не спіцца. А, гэта ты. У голасе — шчырае абурэнне:

— І дзе ты швэндаешся?! Я прыехаў ужо паўгадзіны таму, у хаце бардак і нікога няма!!!

Я прыкладваю ўсе сілы, каб застацца спакойнай:

— Я — дома. І, наколькі я памятаю, я звольненая...

Маўчыш. Ды ты, пэўна, забыўся! Мне ўжо смешна. Гэтак крышачку памыліўся!

— Не думай, я не забыўся, — тон змяніўся кардынальна. Я вельмі люблю, калі ты гаворыш так: без пантоў, нармальна. — Я думаў, ты зразумела, што гэта было несур'ёзна. Я быў надта... усхваляваны і нагаварыў шмат усякага. Але гэта нічога не азначае!

Так, гэта азначае толькі, што ў цябе Саша. І ты хутчэй зноў нахаміш, чымсьці папросіш прабачэння. Ну што ж, гэта пачакае.

— Добра, я зараз прыеду.

Не стрымліваюся ад спакусы — кідаю трубку, не дазваляючы табе адказаць. Шчыра кажучы, я была амаль упэўненая, што ўсё будзе менавіта так. Не хочаш ты браць новага чалавека — звыкаеш доўга.

Начныя вуліцы амаль пустыя, толькі зрэдку пралятаюць машыны, прабягаюць, прыціскаючыся да сцен, людзі.

Даішнікі спяць. Пост цёмны і пусты...

І твой дом таксама выклікае ўражанне пустога. Але ў акне спальні на другім паверсе ледзь-ледзь уздрыгвае агеньчык свечкі. Дзверы не зачыненыя, і я зноў уваходжу ў твой дом. Дзіўнае адчуванне. Дарэчы, яно хутка праходзіць — работы многа, у хаце на самай справе бардак. Але ён заўсёды, калі я хаваю твае цыгарэты, і ты потым іх шукаеш. Бывала й горай. Дзякуй Богу, на гэты раз сталяр не патрэбны...

Заканчваю работу, калі за вакном ужо развіднелася. Іду ў "свой" пакой (тут усё гэтак жа, як я пакінула, калі выходзіла мінулы раз) і, не распранаючыся, кладуся. Спаць хочацца страшэнна...

Прачынаюся ад цыгарэтнага дыму. Ты ў сваім улюбёным крэсле. На дыване перакуленая попельніца ў россыпу недакуркаў. Ты ціха нешта мармычаш у сне. Мяне аблівае холадам... Маё імя... Ну, хаця б у сне...

Галосіць тэлефон. Ты. І якога д'ябла ты заўсёды звоніш уначы?! Якая там гадзіна? Чацвёртая. Дзіўна, нешта вы зарана вызваліліся.

— Прыязджай зараз жа! Саша хоча цябе бачыць!

Гэтага толькі не хапала. Граць пад метраном гэтага пудзіла... Каб табе... з тваім разуменнем маіх абавязкаў...

— Добра, прыеду. Што-небудзь прывезці?

Дзесьці побач з табой нехта непаразумела загаласіў. Ты адразу падабраўся:

— Прывязі пару ўпаковак вады. Ці тоніка. Усё. Мы чакаем.

Халера, выбірацца з цёплага ложка ў чатыры гадзіны, цягнуцца ў супермаркет, потым на гэтую чортаву вечарынку... Цікава, з чаго б гэта Сашы захацелася мяне ўбачыць?..

Пусты горад, напаўсонны супермаркет... Малады ахоўнік выносіць аднекуль дзве ўпакоўкі тоніка, робячы спробу пакінуць іх ля касы. Я адразу прачынаюся:

— Малады чалавек, мая машына вунь там.

Ён не пярэчыць. І нават не вельмі цяжка яму сказаць стандартныя словы падзякі і запрасіць прыехаць яшчэ...

Пустыя вуліцы. Уздрыгваючы светафорнымі агнямі, неспакойна спіць горад. І я люблю, і не люблю яго. Тут ты, тут мае сябры. Але...

Сашаў дом заліты святлом, вакол — россып машын. З дзесятак, пэўна.

Глушу матор. Сказаць, што я не хачу туды ісці — гэта нічога не сказаць. Ужо ад аднаго прадчування мне моташна. Але гэта таксама частка работы, халера яе бяры, дзякуй Богу, што яна ў мяне ёсць.

Нехта стаяў на ганку, — і вось ужо мне не трэба цягнуць тонік уласнаручна.

Музыка ўжо не грукоча, як на кульмінацыі вечарынкі, так, ціхенька дзесьці хрыпіць, захлынаючыся. У Сашы наогул дзіўны густ — і музычны, і мастацкі: тое, што вісіць на сценах, з вялікай цяжкасцю можна назваць жывапісам, хаця і напісана алеем. Наляпана, і каляровая гама анатамічнага тэатра.

Жахі, пэўна, начамі сняцца.

Аднак, сяткаванне калі не скончылася, то набліжаецца да фіналу — некаторыя госці ўжо ціха пасопваюць у кутах, адзін-два падбіраюць рэшткі святочнага частавання.

Саша, тваё джынсавае непаразуменне — сярод тых хто ўжо адправіўся да сябе. Трэба думаць, ты дзесьці там жа.

Так, ну і што рабіць? Дзе тонік?

Я знайшла бутэльку і акупавала крэсла пад пальмай.

Касета скончылася. Госці храпуць паўсюль. Ды яшчэ вы валаводзіцеся недзе наверсе. Ну і няхай.

Любімы тонік. Любімая пальма. Некалі, калі яна была ў два разы ніжэйшая, яна стаяла ў тваім доме. І ў адзін з такіх дзён нарадзінаў ты падараваў яе Сашы. І сам шкадаваў. А шкадаваць нельга — лепей не дарыць. Сашын капрыз; ты не змог адмовіць...

Добры тонік... Цікава, лімоны ўжо ўсе пад'елі?..

Дзіўна — талерка з нарэзанымі лімонамі, праўда, залітая нейкім вінам — некранутая. То я яе зараз і прыўлашчу.

Ну што ж, пакуль што вельмі нядрэнна. Галоўнае — я не бачу Сашу. І чаму гэтае пудзіла мяне так нервуе? Бездапаможнай вабнасцю? Неадэкватнай капрызлівасцю? Або я проста раўную да цябе? Ды не, рэўнасці няма. Ды я й не маю на яе права. Бо я ж...

Іншая справа, што і для цябе вашыя адносіны цяжкія. І, магчыма, справа ў тым, што ты не разумееш, чаго хочацца менавіта табе. Ужо добра ведаеш, чаго не хочацца, а ў жаданнях пакуль не разабраўся...

Ледзь заўважны пах вялай пальмы ў моры дыму.

Дым...

Пальмы, крычаць у цемры папугаі; недзе непадалёк шорхаецца мора. Адбітак далёкага кастра ледзь заўважна разбягаецца цёмна-чырвонымі разводамі. І недзе на беразе, у прыбоі, блішчыць нязнойдзеная ракавінка... Перламутравае сэрцайка. Яна даўно і бессэнсоўна чакае.

І заломвае карані на беразе тое, што яшчэ зусім нядаўна было дрэвам. І русалка на мокрым камлі таксама глядзіць у прыбярэжную паласу туману. Таксама чакае.

І ў гэтым таксама няма ніякага сэнсу.

Таму што нумар у гатэлі пусты. Гэтым летам туды ніхто не прыехаў. І ніхто не сядзе побач з русалкай слухаць казкі хваляў. І ніхто не ўбачыць яе танец перад узыходам сонца. І не расчыніцца ракавінка на цёплых далонях. Не падзеліцца сэрца на дзве аднолькавыя палавінкі.

Хаця шкада...

Едзем у аэрапорт. Спазняемся. Ты нервуешся. Я, зразумела, таксама. Ты маўчыш, я ціха сваруся на ідыётаў, што кідаюцца пад колы. І ніяк не магу адбіцца ад думкі, што ты не павінен сёння ляцець. Не ведаю, адкуль гэтая думка ўзялася, але яна... не адпускае мяне... Магчыма, менавіта гэтая думка развярнула машыну на Майскую шашу. І, зразумела, на выездзе з горада — пробка. Дзесьці за кіламетр — два ад паста ДАІ. І мы натуральным чынам у гэтае павуцінне папаліся.

Я прыблізна магу сказаць, якога колеру зараз мой твар...

Але ты — маўчыш. Ні слова.

Не тое, каб мы зусім не рухаліся — не, рухаемся "кароткімі перабежкамі ". Ашчадны мужык на суседняй паласе коціць машыну адной конскай сілай — уласнай. На мяне нападае нечаканы прыступ істэрычнага смеху, — у касцюме ад Версачы пхаць свайго "мерса" — гэта ж трэба! І чаравікі яму абавязкова ціснуць.

Ты ўзяўся за радыёпрыёмнік. Перабраў эфірныя хвалі, спыніўся на нечым ціха-лірычным. Калыханка. Дзіўны выбар. Спазняючыся на самалёт, калі вакол гудуць і равуць...

Наогул, гледзячы на цябе, можна падумаць, што ты ўжо сядзіш дома на канапе, і наперадзе вольны вечар і цікавая кніжка. Верашчыць твой мабільнік. Ты, не спяшаючыся, падносіш яго да вуха:

— Слухаю... Я... На Майскай... Яшчэ хвілін 20-30... А я што магу зрабіць? Яна не будзе ляцець, бо я збіраюся дабрацца да аэрапорта жывым... Так... Добра...

І зноў маўчыш, круцячы мабільнік у руках.

Хвілінкі бягуць, бягуць...

Але вось ужо пост, — і шырокая шаша. Аварыя тут была. Нехта ляжыць размазаны, бітае шкло... Не трэба табе сёння ляцець...

Мы ўжо спазніліся хвілін на 25, ды яшчэ пакуль даедзем...

— Мы спазняемся, — гэта ты мне паведамляеш. І больш ні слова.

Я крыху дабаўляю хуткасці...

...На паркоўцы на здзіўленне няшмат машын. Я спыняюся, ты машаш мне рукой, і мы выходзім разам. І ідзём, каб сімпатычная дзяжурная з агромністымі вачыма пранізліва зялёнага штучнага колеру праінфармавала табе, што "борт 1923 ужо ў паветры". Ты дзячыш ёй і паварочваешся да мяне. Доўга разглядаеш, як нейкі цуд...

У думках я рыхтуюся да скандалу, звальнення, ці яшчэ горшага....

Але нічога не адбываецца. Наглядзеўшыся, ты спакойнай хадою накіроўваешся да машыны...

Сэрца маё калоціцца, але галаву адпусціла, — ты ўсё ж такі не паляцеў сёння.

Назад едзем хутчэй і ў поўнай цішыні. Ля ДАІ яшчэ стаіць пабітая машына, але шкло і нябожчыка ўжо падабралі...

Толькі ля самага дома ты звяртаешся да мяне голасам, якому пазайздросціў бы айсберг:

— Давай у гараж.

Ахоўнік махае рукой — пазнаў.

Дома адразу завальваешся на ложак:

— Зрабі мне каву, разбяры чамадан і можаш быць вольная...

Я іду дамоў, пакінуўшы цябе разглядаць столь.

Ноч. Звоніць тэлефон. Я ведаю, хто, яшчэ не зняўшы трубку. І ведаю, чаму ты звоніш...

— Гэта я. Ведаеш, зараз у навінах перадалі: борт 1923 знік з экранаў радараў...

Рваўцом прачынаюся.

Раніца. Святло, але пакуль яшчэ ціха. Птушкі ўжо пачалі нешта насвістваць на бярозе за вакном.

Значыцца — сон? Мяне — або яшчэ не мяне? — залівае хваляй палёгкі. Сон.

І адразу разумею: я хачу ў лес. Я больш нічога не хачу.

Зрываюся з месца, быццам хачу праверыць, ці праўду сказалі стваральнікі маёй машыны наконт 8 секунд для разгону да 100 кіламетраў... Дарогі амаль пустыя. Асфальт цячэ пад колы...

Чым далей за горад, тым павольней еду. Тут ужо не трэба спяшацца. Я амаль прыехала. А вось і ён, прасёлак, можна збочваць.

Лес — гэта амаль бачныя струмені энергіі, якія працінаюць наскрозь. Калі зусім дрэнна ўсё — час ехаць у лес. Каб перагукваліся птушкі, падалі шышкі і лёталі па залатых дрэвах вогненныя вавёркі. Каб пружыніў пад нагой глыбокі мох, і ярка-зялёнымі пырскамі вабілі трылісныкі зайцавай капусты. І каб крыкнула і адразу змоўкла зязюля, не чакаючы традыцыйнага пытання. І каб тырчэў недзе ганарліва-атрутны мухамор...

І каб можна было ляжаць, жаваць травінку і глядзець на рэдкія пялёсткі неба, заблытаныя ў густых кронах. І ні пра што не думаць. Проста слухаць лес. Яго, не сябе. І прымаць ягоныя сілы, а яму аддаваць сваё захапленне ім і ўласнымператварэннем.

Лес заўсёды прыме, якім бы ты да яго не прыйшоў. Абсыпле шышкавай луской з-пад заклапочанай вавёркі, закапае смалой, залье пахамі...

І адпусціць...

# МЫ ЗНОЎ ІДЗЁМ ГЛЯДЗЕЦЬ «ЧАПАЕВА»

***Дзесяць год – узрост, да якога выпадае дажыць не кожнаму тэатральнаму спектаклю. Але камедыі "Мы ідзём глядзець "Чапаева" ў Тэатры Кінаакцёра пашанцавала – 23 ліпеня спектакль урачыста адсвяткаваў свой дзесяцігадовы юбілей.***



У рэпертуары гэтага мінскага тэатра шмат яркіх, добра зробленых камедый, але гэты спектакль па п`есе Алега Данілава вылучаецца з іх шэрагу перш за ўсё тым, што прапануе не толькі больш-менш вясёлае баўленне часу, але шчыра размаўляе з гледачом на вельмі актуальныя тэмы. Актуальныя і зараз, праз дзесяць год з часу з`яўлення "Чапаева" (так скарочана называюць спектакль у тэатры) на сцэне. Разам з гледачом яго героі імкнуцца вызначыць для сябе, як жыць у новым, такім складаным і жорсткім часе; як супрацьстаяць меркантылізму і побытавай неўладкаванасці. І што немалаважна, спектакль не пакідае пачуцця безвыходнасці. Наадварот, ён нясе моцную жыццесцвярджальную энергетыку.

У спектаклі склаўся цудоўны акцёрскі ансамбль: заслужаны артыст РБ Аляксандр Цімошкін, заслужаная артыстка РБ Святлана Сухавей, Аляксандр Кашпераў, Уладзімір Грыцэўскі, Алена Румянцава, Ірына Нарбекава, Вольга Сізова. Вядома, што за такі доўгі час склад артыстаў не мог заставацца нязменным, але трое з іх – Аляксандр Цімошкін, Святлана Сухавей і Аляксанд Кашпераў – выходзяць на сцэну ўжо 242-гі раз, пачынаючы ад далёкага ўжо дня прэм`еры. На сённяшні дзень спектакль паглядзелі каля 500 тысяч гледачоў. І мяркуючы па перапоўненых (і гэта ў разгар сезона летніх адпачынкаў!) залах, цікаўнасць да яго не губляецца. У чым жа сакрэт? Напэўна, у тым, што і зараз спектакль застаецца жывым, дынамічным, шчырым і па-сапраўднаму таленавіта выкананым.

**Юлія ПАЛАЧАНІНА**

*НА ЗДЫМКУ: сцэна са спектакля "Мы ідзём глядзець "Чапаева".*

ЮБІЛЕІ



*А. БАГАТЫРОЎ у сваім кабінеце.*
Работа мастака С. ГЕРУСА, фотарэпрадукцыя М. ЗАМУЛЕВІЧА.

# ДЛЯ МЯНЕ ЁН ДАГЭТУЛЬ — ЗАГАДКА...

***Нарадзіўся я далёка ад Беларусі – у Казахстане, у цудоўным горадзе Алма-Аты. Бацька мой – кампазітар, і ў хаце заўсёды гучала музыка. Таму, калі прыйшоў час выбіраць прафесію, у мяне не было альтэрнатывы: я ведаў, што буду кампазітарам. Але дзе, у якой кансерваторыі вучыцца? У свой час я праслухоўваўся ў рэктара Горкаўскай кансерваторыі, кампазітара Несцерава, але мне, не ведаю чаму, заўсёды хацелася вучыцца і жыць на Беларусі. Мабыць, прычына ў тым, што мой бацька родам з Гомеля і ў маіх жылах ёсць беларуская кроў.***

Калі я вырашыў паступаць у Беларускую дзяржаўную кансерваторыю, дык праслухоўваўся ў аднаго са старэйшых кампазітараў — Анатоля Багатырова. Ён параіў: "Паступайце!" Мне пашанцавала: паступіў у кансерваторыю. Але можна лічыць, што пашанцавала двойчы, бо я трапіў у клас прафесара, народнага артыста Беларусі, лаўрэата Дзяржаўных прэмій СССР і БССР Анатоля Васільевіча Багатырова. І справа тут не ў тытулах і не ва ўзнагародах. Багатыроў — вядома, дзівосны чалавек!

Для мяне ён і на сённяшні дзень — загадка. Здаецца, што ён трапіў да нас з іншых часоў, часоў Рымскага-Корсакава, Глазунова і Танеева. Цяпер ужо не сустрэнеш той высакароднасці, той высокаадукаванасці... Бацька Багатырова быў звычайны па тым часе настаўнік гімназіі, які выкладаў лацінскую мову. Ён, напрыклад, у арыгінале на памяць ведаў усяго Гамера. У кансерваторыі Анатолю Васільевічу пашчасціла вучыцца ў Васіля Залатарова, вучня Рымскага-Корсакава. Вядома, усё гэта наклала свой адбітак на асобу Багатырова, на яго адукацыю, вызначыла рысы яго характару.

Памятаю, як здзівіла мяне, юнака, які яшчэ нічога не разумеў у кампазіцыі, калі Анатоль Васільевіч звяртаўся да мяне, як да свайго калегі-кампазітара. Гэта потым я

РЭХА "СЛАВЯНСКАГА БАЗАРУ Ў ВІЦЕБСКУ"




***Адным з самых папулярных мерапрыемстваў Міжнароднага фестывалю мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску" былі "Тэатральныя сустрэчы", якія праходзяць у рамках гэтага фэсту з 2000 года. З тае пары ў Віцебск прыязджалі славутыя тэатральныя калектывы з Беларусі, Літвы, Расіі, Украіны, Югаславіі.***



# ШУКАЙЦЕ... МУЖЧЫНУ!?

Напрыклад, на леташніх "Тэатральных сустрэчах" на сцэне Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа быў разыграны адзін са славутых спектакляў рэжысёра-легенды Э. Някрошуса "Атэла". А сапраўдным заўсёднікам тэатральнай праграмы "Славянскага базару" зрабіўся рэжысёр Р. Вікцюк: прынамсі, сёлета ў "Тэатральных сустрэчах" браў удзел ужо трэці спектакль Тэатра Р. Вікцюка пад назвай "Маю жонку завуць Марыс" (раней у Віцебску былі разыграны "Саламея" паводле О. Уайльда і "Майстар і Маргарыта" М. Булгакава).

Увогуле ўсе спектаклі, якія прайшлі ў Віцебску ў рамках "Тэатральных сустрэч-2003", а гэта "Старыя рускія" Б. Рацэра (рэж. С. Кустаў, Маскоўскі драматычны тэатр імя Р. Сіманава), "Усё будзе добра, як вы хацелі" С. Злотнікава (рэж. І. Райхельгауз, маскоўскі тэатр "Школа сучаснай п'есы") былі прысвечаны тэме няпростых узаемаадносінаў паміж мужчынам і жанчынай (менавіта ў такім пераліку палоў). Прынамсі, у пастаноўках Р. Вікцюка і С. Кутасава мужчыны актыўна пераапраналіся ў жаночае адзенне, да непрыстойнасці агалялі свае душы, а жанчынам – целы, ў той час, калі ў спектаклі І. Райхельгауза, камерным трыпціху для дваіх, і мужчына і жанчына спрабавалі знайсці элементарнае паразуменне, навучыцца суіснаваць побач хаця б на адной лаўцы ў парку...

Французскі кінарэжысёр К. Лелуш, які ў 60-х зняў знакамітую стужку "Мужчына і жанчына" прызнаваўся неяк Э. Разанаву, што яму куды цікавей працаваць з жанчынамі, бо жаночы свет багацейшы, глыбейшы за мужчынскі. Стваральнікі ж спектакляў "Маю жонку завуць Марыс" і "Старыя рускія" даводзяць якраз зусім адваротнае (на ўзроўні таннага кіча): усе жанчыны – сцервы і падманшчыцы, а мужчыны – іхнія бездапаможныя ахвяры, няшчасныя летуценнікі. Вядома ж, зразумець мужчыну можа толькі мужчына, які дзеля сябра (ці нават выпадковага сустрэчнага, што спрабуе задурыць галаву палюбоўніцы) здольны зрабіцца даволі прывабным трансвесцітам. У гэтым сэнсе эпатажнасць, разняволенасць сцэнічных твораў Р. Вікцюка ўжо не здзіўляюць: яшчэ ў сваіх знакамітых "Служанках" ён прымусіў мужчынаў-акцёраў (а ў першых спектаклях ігралі такія знакамітыя артысты, як К. Райкін, М. Дабрынін, С. Макавецкі) быць максімальна свабоднымі ў вобразе жанчыны. У новай пастаноўцы Тэатра Р. Вікцюка "Маю жонку завуць Марыс" і А. Дзюба (Жорж Адфей), і Д. Бозін (Марыс Ляпэн) іграюць сваіх жанчын (у сучаснай камедыі "палажэнняў" пераапранутыя ў жаночае адзенне мужчыны лічацца геямі) з неверагоднай лёгкасцю, імпэтам, уцягваючы гледачоў у даволі непрыстойную, але вясёлую інтрыгу. Р. Вікцюк – жудасны правакатар. Гледзячы ягоны новы спектакль, не можаш пазбавіцца ад непрыемных думак пра пошласць, гнюснасць, брыдкасць чалавечай прыроды (дарэчы, абодвух палоў). Аднак рэжысёр называе свой спектакль ігрой, пакідаючы ў прасторы сцэны збольшага абстрактныя, празрыстыя прадметы (сцэнаграфія У. Боера), якія вымушаюць адносіцца да бессаромнай сцэнічнай дзеі нязмушана і лёгка. Бо на маю думку, спектакль "Маю жонку завуць Марыс" усяго толькі распавядае пра слабых, інфантыльных мужчын, якія робяцца мацнейшымі і разумнейшымі, пераўтварыўшыся ў жанчын. Спектакль Маскоўскага драматычнага тэатра імя Р. Сіманава "Старыя рускія" пастаўлены ў традыцыях класічнага акадэмічнага тэатра. Тут рэжысёр С. Кутасаў не прымушае сваіх акцёраў — народнага артыста Расіі В. Шалевіча (ён іграе былога настаўніка геаграфіі Гарадзецкага) і заслужанага артыста Расіі М. Варанцова (былы акцёр Лапухін) — пераапранацца на карысць відовішча ў жаночыя спадніцы (хаця ў спектаклі тэма нетрадыцыйных сексуальных адносінаў крышачку абыгрываецца): акцёры прыцягваюць увагу гледачоў перш-наперш сваім майстэрствам, а таксама замілавальнай абаяльнасцю недарэчных персанажаў, якія спрабуюць прыстасавацца да ўмоў новага рынкавага часу, застаючыся сапраўднымі рускімі інтэлігентамі. Вядома, "старыя рускія" пастаянна трапляюць ва ўсемагчымыя смешныя сітуацыі ад продажу "гербалайфа" да ўдзелу ў прэзентацыі кнігі "Чаму я зрабіўся міліцыянерам?" Мужчыны сталага ўзросту дапамагаюць, падтрымліваюць адзін аднаго да фіналу дзеі, калі ўжо становіцца зразумела, што ўсе жанчыны – ці то прастытуткі, ці то сквапніцы, а зразумець мужчыну можа... правільна, толькі мужчына –

зразумеў, што чым больш буйная асоба творцы, тым працей ён паводзіць сябе ў жыцці.

На занятках мы не шмат часу аддавалі, што называецца, тэхналогіі. Звычайна я прыходзіў да Багатырова два разы на тыдзень. І ён ніколі не выказваў уласнай незадаволенасці, кшталту: "Чаму на гэты ўрок вы нічога не прынеслі?" (У сэнсе — ужо напісаных нотных урыўкаў, фрагментаў.) Анатоль Васільевіч разумеў, што я працую, шукаю патрэбны матэрыял. Падчас заняткаў ён мог, напрыклад, расказваць пра свае сустрэчы з Шастаковічам, Галаванавым, Нязданавай, пра Сталіна і Берыю. Мабыць, менавіта гэтымі гутаркамі і стваралася атмасфера мастацтва, творчасці, выхоўвалася цікавасць і любоў да гісторыі, у тым ліку да гісторыі Беларусі.

Вельмі часта Анатоль Васільевіч іграў класічныя музычныя творы. І вельмі важна, што ён ніколі не вучыў на тых творах, якія напісаў сам. Не паказваў, як ён працаваў над сваімі опусамі, як яны зроблены. Ён пра іх наогул не гаварыў. Не ведаю — ці ад сціпласці, ці з якой іншай прычыны.

Аднойчы я пачуў па радыё фрагмент Другой сімфоніі Багатырова. Музыка мне вельмі спадабалася. Калі прыйшоў да яго ў госці, запытаўся: "Анатоль Васільевіч, ці ёсць у вас запіс Другой сімфоніі?" У адказ: "Недзе ёсць". Я папрасіў. "Знайдзіце, калі ласка, я вельмі хацеў бы паслухаць..." Ён так і не знайшоў. Паблізу ў яго захоўваліся запісы Бетховена, Вагнера, Моцарта, Брамса, і ён ведаў, дзе менавіта яны стаяць. А дзе запіс уласнай сімфоніі — не ведаў.

Заўважу, што ўсе вучні Багатырова — вельмі розныя, адметныя творцы. Сярод іх — Яўген Глебаў і Ігар Лучанок, Генрых Вагнер і Юрый Семяняка, Дзмітрый Смольскі і Сяргей Картэс, Андрэй Мдзівані і Рыгор Сурус, Уладзімір Буднік і Віктар Войцік, Уладзімір Солтан і Леанід Захлеўны, Мікалай Літвін і Пётр Альхімовіч. Усе — таленавітыя. І — не падобныя адно да аднаго, таму што Багатыроў ніколі не ламаў творчыя індывідуальнасці, не імкнуўся вылепіць з іх да сябе падобных. І ў гэтым — галоўная заслуга Анатоля Васільевіча Багатырова, выдатнага кампазітара і таленавіцейшага педагога. Настаўніка з вялікай літары.

**Алег ХАДОСКА,**
**лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі**

лепш, калі добры, абаяльны весялун-сабутэльнік (трэба адзначыць, што ў спектаклі свае ролі добра выканалі заслужаныя артысткі Расіі Г. Камянкова і А. Івачкіна).

Апошні спектакль "Тэатральных сустрэч-2003" ужо ў назве як быццам падсумоўваў вынік сцэнічнай дыскусіі наконт няпростых узаемаадносінаў паміж мужчынамі і жанчынамі. Тры невялікія п'есы, што склалі спектакль, "Усё будзе добра, як вы хацелі" распавядалі пра тры выпадковыя сустрэчы мужчыны і жанчыны, якія нягледзячы на розныя тыпы мыслення, а таксама характары, узрост і нават прафесіі мусілі шчыра выслухаць другуюпалову. Вядомыя расійскія акцёры І. Алфёрава і Л. Дураў, у якіх атрымаўся неверагодна зладжаны дуэт, нездарма сыходзілі са сцэны ў глядзельную залу, гутарылі з гледачамі, дарылі ім свае аўтографы, увесь час падкрэсліваючы ўмоўнасць таго, што адбываецца на сцэне. Мужчына і жанчына насамрэч могуць дамовіцца і тады ўсё будзе добра, як мы ўсе хацелі і хочам...

**В. БАРАБАНШЧЫКАВА**



**МЕРКАВАННЕ**

***Нягледзячы на тое, што прэм'ера рок-оперы "Юнона" і "Авось" А. Рыбнікава ў Беларускім дзяржаўным музычным тэатры адбылася ў снежні 2002 года, увесь сезон білеты на спектакль набыць было цяжка. Як вядома, пастаноўка атрымала супярэчлівую крытыку, што вымушае працягнуць гаворку пра яе.***



# СТАВІМ РОК-ОПЕРУ?

Мае меркаванні датычаць не толькі сцэнічнага ўвасаблення гэтага твора, але і яго самога. Бо з ім у пастаноўшчыкаў і выканаўцаў звязаны шэраг мастацкіх праблем, вырашэнне якіх урэшце вызначае творчы вынік.

У адным з колішніх інтэрв'ю А. Рыбнікаў назваў "Юнону" і "Авось" дыскаоперай, зазначыўшы: "Мае гледачы — толькі слухачы, мой спектакль — грампласцінка". Аднак далейшы лёс твора паставіў пад сумніў такую катэгарычную заяву. Як вядома, адбылася паспяховая пастаноўка рэжысёра М. Захарава. І тады загаварылі пра неабходнасць стварэння тэатра, які прызначаўся б для тэатральна-музычных эксперыментаў, кшталту прапанаваных А. Рыбнікавым, А. Журбіным...

Зрэшты, само па сабе гэта не было новым. Яшчэ ў 20-30 гг. XX ст. нараджаліся свежыя музычна-тэатральныя жанравыя формы, ідэі, сярод якіх — стварэнне оперы для драматычнага акцёра (выказана У. Меерхольдам). Аднак А. Рыбнікаў, даўшы высокую адзнаку працы Маскоўскага тэатра імя Ленінскага камсамола, заўважыў, што толькі опернаму тэатру дадзена выявіць увесь змест, усю эмацыянальную і духоўную моц яго твора.

Мноства вызначэнняў "Юноны" і "Авось" удакладняюць яе традыцыйную жанравую першааснову — опера. Яны ўзнікалі, бадай, у сувязі са зямненнем знешняй формы ўвасаблення ці бытавання твора. З'явіліся, дарэчы, і яго тэлевізійная версія, і таксама балетная. "Абцяжараная" шматлікімі і, часам, па-свойму эталоннымі версіямі, "Юнона" і "Авось" навязвае ўласны комплекс шматзначнасці і шматпланавасці кожнаму, хто наважваецца на чарговае сцэнічнае ўвасабленне.

У праграмцы спектакля Беларускага дзяржаўнага музычнага тэатра твор вызначаны як рок-опера, без прэтэнзій падаецца і прызнанне аўтара праекта наконт таго, што ў пастаноўцы не трэба шукаць эксперыментальна-наватарскае. Так і ёсць. Аднак сама ідэя звярнуцца да савецкай рок-опернай класікі на фоне ўсеагульнага захаплення заходнімі рок-операмі і мюзікламі, можа быць успрынята не толькі як больш танны і рэальны праект.

Аўтар пастановачнага праекта і выканаўца галоўнай партыі А. Ісаеў ужо быў на ўласнай акцёрскай практыцы знаёмы з творам А. Рыбнікава. На Беларусі дагэтуль не склалася ўласная традыцыя ўвасаблення рок-оперы, і Музычны тэатр атрымаў першынство ў гэтым кірунку. Спецыфіка моўнай выразнасці рок-музыкі, бытавога камерна-вакальнага музіцыравання, праваслаўнай спеўнай і ўласна опернай традыцый — іх суадносіны і ўзаемадзеянне вызначаюць складаную жанравастылёвую шматпланавасць драматургічнай канцэпцыі оперы "Юнона" і "Авось". Гэта стварае для пастаноўшчыкаў і выканаўцаў сур'ёзную і прынцыповую, на мой погляд, праблему дынаміка-гукавога балансу, якая ў спектаклі нашага Музычнага тэатра пакуль што не вырашана. Засваенне новых, не традыцыйных для трупы тэатра выканальніцкіх традыцый, — гэта толькі палова справы. Рок-музыка, тым больш, калі яна спалучаецца з іншымі формамі і манерамі выканання, якія ўтвараюць сінтэтычнае опернае цэлае, — гэта не толькі моцныя гукі і жорсткая рытміка, не толькі экспрэсія і дынаміка: магчымасці "рока" значна шырэй і іх трэба выкарыстоўваць і прафесійна, і з густам, і дарэчы. Маю на ўвазе і спецэфекты гучання голасу Божай Маці, і гучныя выбуховыя кульмінацыі ў звычайным рамансе афіцэраў, і харавое малітоўнае спяванне, у якое востра ўрэзваецца экспрэсіўная рок-стылістыка.

Яшчэ адна важная праблема звязана са сцэнічным увасабленнем твора А. Рыбнікава і датычыць спалучэння рознажанравых і рознавідавых прыкмет музычнага і драматычнага тэатраў. Гэтае спалучэнне адбываецца праз пастаянныя пераключэнні планаў дзеяння оперы: экспрэсіўна-драматычнага, лірыкапсіхалагічнага, жанрава-побытавага, эпічна-апавядальнага, у амаль кінематаграфічным тэмпарытме. Здаецца, гэта праблема ў пастаноўцы больш-менш вырашана. Спектакль успрымаецца як даволі дынамічны, насычаны падзеямі працэс. Аднак ёсць у творы некалькі эпізодаў, якія магчыма было скараціць на карысць якраз опернаму дзеянню, напрыклад, сцэна прыёму расійскай дэлегацыі ў губернатара Сан-Францыска, прынамсі, дыялог Разанава і Хасэ Дарыя Аргуэлы, старанна перакладаемы на розныя мовы, таксама ж як і хроніка-дакументальнае паведамленне пра лёс Канчыты, якая не магла паверыць у сканнанне каханага і чакала яго 35 гадоў і г. д. У той жа час падаецца неапраўдана скарочанай фінальная сцэна перад смерцю Разанава, яго маналог-споведзь на фоне спеваў хору.

Зразумець усе ўнутраныя дэталі арганізацыі сюжэтна-тэкставай часткі оперы, апраўдаць ці наадварот паставіць пад сумніў пэўныя скарачэнні, расцягнутасці, перастаноўкі можна, толькі вызначыўшы галоўную рухальную сілу: мастацкую ідэю твора. Ды вось высвятляецца, што яна — дваістая рамантычная гісторыя кахання, якую "Юнона" і "Авось" прапануе ў спалучэнні з аповедам пра неспакойны, апантаны дзяржаўнай ідэяй і трагічны лёс рускага графа, апантанага ідэяй руска-амерыканскага яднання, мабыць, і незразумелая для сучаснікаў. Але чужая гісторыя блізка сэрцам тых, хто калі-небудзь зведаў падобнае да дзяржаўнага гонару, самаадданасці, высакароднасці, да пачуцця ўласнай годнасці, каму знаёмыя каханне і вернасць, самаахвярнасць. Каханне і Айчына — дзве магутныя сілы, злучаныя ў адзінае непарушнае цэлае, увасобленае ў супярэчлівым вобразе. Тут і яшчэ адна складанасць прачытання оперы, якое вымагае не дэманстрацыі фабулы, а дынамікі пачуццяў, душэўнага канфлікту героя, выяўлення трагедыі чалавека, які так і не знайшоў заспакаення — ні ў каханні, ні ў веры Айчыне, якой служыў.

Так, галоўная фігура оперы, бясспрэчна, Разанаў, зразумець, паверыць якому і апраўдаць якога мусіць не толькі глядач, але і выканаўца. Магчыма, гэтага героя сёння ўвасобіць на сцэне Музычнага тэатра надзвычай складана, але і надзвычай прынадліва. Драматычная сцэнічная мова Разанава, рэчытатыў, меладэкламацыя, зрэдку пераходзяць у арыёзнае спяванне ці ў арыю. Таму партыя найскладнейшая не толькі ў вакальным, але найбольш у акцёрскім сэнсе. У тэксце Вазнясенскага, як вельмі слушна ў свой час заўважыў кампазітар Р. Шчадрын, кожнае слова — золата вышэйшай пробы, кожны дзеяслоў вярэдзіць душу, пячэ, трывожыць, кожная страфа поўная прасвятлення, прадбачання. Данесці сэнс тэксту да слухача — самая складаная задача для недраматычнага выканаўцы. Практыка выступленняў у лёгкіх камедыйных жанрах, здаецца, не спрыяе гэтаму, як і практыка традыцыйнага опернага выканальніцтва. Але, звярнуўшыся да вобраза Разанава, А. Ісаеў, мяркую, пераканаў, што пры вялікім жаданні можна выйсці за рамкі пэўнага амплуа. Хаця яго яркаму, арыгінальнаму выкананню ўсё ж такі замінае адзіны драматычна-трагедыйны тон,што не супярэчыць ролі, але робіць яе аднастайнай. Нягледзячы на ўмоўнасці жанру, нечаканым падаецца мецца-сапрана Канчыты (С. Мацієўская), якое далучаецца да разанаўскага афекту і пазбаўляе оперу тэмбравай разнастайнасці. Па-армейску строга і разлічана гучыць бытавы раманс у ансамблевым выкананні



афіцэраў. Затое неверагодна пластычны ў музычным увасабленні вобраз жаніха Канчыты Федэрыка (Э. Мартынюк). Невялічкая роля атрымалася вельмі выразнай, экспрэсіўнай.

Асаблівасць оперы А. Рыбнікава яшчэ і ў тым, што яна будуецца на пераключэннях камернага і буйнога планаў: сцэна то агаляецца, і выканаўцы нібыта не ведаюць, што ім рабіць, мала рухаюцца і, пры магчымасці, хаваюцца за клубамі дыму; калі ж на сцэну выходзяць балет і хор, яна падаецца няўтульнай, непрыстасаванай. Праблема гэта часткова вырашаецца за кошт прасторы глядзельнай залы, ахвяраванай выканаўцам, але ж, здаецца, тут павінны больш працаваць асвятляльнікі, якія амаль не задзейнічаны.

Намаганні аўтараў пастаноўкі ўспрымаюцца як пошук сучаснага аблічча тэатра, яго ідэйнай актуальнасці, запатрабаванасці ў гледача і як імкненне да пераемнасці традыцый, хай сабе і праз савецкую класіку, якая не так даўно лічылася і нашай айчыннай. І хочацца пажадаць: "Давайце ставіць рок-оперу, улічваючы ўласныя законы жанру, спасцігаючы адметнасць канкрэтнага твора і разлічваючы на ўдумлівага гледача".

**Вера ГУДЗЕЙ-КАШТАЛЬЯН**
**Фота К. ДРОБАВА**











# ВОЛАТАЎСКАГА РОДУ









окамі пясчанай і камяністай зямлі маёй Гарадоччыны сілкуецца радаводнае дрэва старэйшага нашага кампазітара, народнага артыста Беларусі, прафесара Анатоля Багатырова.

Прадзед яго Пятро жыў у вёсцы Кабішча і меў прозвішча Багацька, але памяняў бацькава прозвішча на "Багатыроў". Меў 18 дзяцей, і яго малодшаму сыну Дзмітраку не дасталася ніякай спадчыны. Той падаўся ў Віцебск, уладкаваўся на завод і стаў кватарантам рабочага гэтага завода Цімоха Васільева, дачка якога абвясціла сябе Хрыстовай нявестай. Але дзед Багатырова спакусіў яе — і яна стала яго жонкай. А жонкаю іх сына Васіля (бацькі Анатоля Багатырова) была дзяўчына з вёскі Хвошча таксама Гарадоцкага павета. Дарашчанка Наталля Яўстаф'еўна.

Бацька кампазітара закончыў Віцебскую духоўную семінарыю і Санкт-Пецярбургскі універсітэт. Выкладаў рускую літаратуру і латынь спачатку ў Віцебскай гімназіі, а потым — у Віцебскім педінстытуце. У яго вучыўся Пётр Міронавіч Машэраў. Маці Анатоля Васільевіча спявала ў царкоўным хоры — мела добры голас. Ёй прапаноўвалі стаць салісткай тэатра "Метраполітэн" у Нью-Йорку.

Праз усё жыццё Анатоль Васільевіч нясе ўспаміны пра лета 1916 г., калі ён, трохгадовы хлопчык, жыў у Кабішчы. Яму вельмі падабалася глядзець у студню і бачыць сваё адлюстраванне ў вадзе. Але прабабка Агаф'я, каб адагнаць яго ад студні, пужала з-за куста, як чорт-лізун, які залізвае дзяцей да смерці.

Анатоль Багатыроў сябраваў з Якубам Коласам. Паводле аповесці "Дрыгва" напісаў сваю першую оперу "У пушчах Палесся", якая ў чэрвені 1940 г. была паказана ў Вялікім тэатры СССР падчас Дэкады беларускага мастацтва ў Маскве. Любіў Коласа і ведаў на памяць шмат урыўкаў з яго "Новай зямлі" і мой айчым Васіль Кірылавіч Даўгалаў, які нарадзіўся ў тых мясцінах, адкуль паходзіць волатаўскі род Багатыровых. Продкі Багатырова вызначыліся ў слаўтай бітве пад Оршай у 1514 годзе, калі войска Вялікага Княства Літоўскага перамагло раць Маскоўскага князя. Кароль Сігізмунд удастоіў іх шляхецкага звання. А два браты яго дзеда былі ўзнагароджаны ордэнамі Святога Георгія за подзвігі, здзейсненыя імі на Турэцкай вайне.

Багатыроў добра ведае гісторыю Беларусі — і з абурэннем згадвае крывавы і спусташальны паход Івана Грознага праз нашу Гарадоччыну. А яшчэ я паважаю свайго знакамітага земляка за мужнасць. З 1938 да 1949 года ён займаў пасаду Старшыні праўлення Саюза кампазітараў Беларусі — і ніводны кампазітар пры ім не быў рэпрэсіраваны. На пытанне: "А як вы так змаглі?" ён з усмешкай адказвае: "Вельмі проста. Я не падпісаў ніводнага кампраметуючага дакумента".

*Дарагі, мілы Анатоль Васільевіч!*
*Як Лосвіда хвалямі блішча*
*Ля вёсачкі Баталі!*
*Там ёсць паварот на Кабішча,*
*Дзе вашыя продкі жылі.*

*Там прадзеды вашы валокі*
*Аралі вясной на кані.*
*Там вашага лёсу вытокі,*
*Там вашыя карані.*

Уладзімір СКАРЫНКІН

Фота К. ДРОБАВА, В. СТРАЛКОЎСКАГА, Н. ШМЕРЛІНГА, А. ПРУПАСА, Ул. КРУКА.

***У Віцебск я трапіла не першы раз. Аднойчы бачыла гэты горад, заліты сонцам. Другі раз — заліты дажджом. Гэтым прыездам старажытнае беларускае места вырашыла сумясціць для мяне абодва свае аблічы — і, сустрэўшы "фірменным" срэбным дожджыкам, з апоўдня прыпашчыла сапраўдным ліпеньскім сонцам. Нагода наведаць Віцебск была паважнай — соты спектакль па маёй п'есе "Прыгоды вандроўнага рыцара", пастаўлены Нацыянальным акадэмічным тэатрам імя Якуба Коласа. Калі драматург у ва мне быў задаволены, пабачыўшы нарэшце ўвасабленне літаратурных фантазій, свайго запатрабаваў журналіст. "Аб'ект" для журналісцкай зацікаўленасці надарыўся адметны: мастацкі кіраўнік Коласаўскага тэатра Віталь Баркоўскі. Спектаклі, пастаўленыя ім выклікаюць захапленне і спрэчкі, тэарэтызаванні крытыкаў і цікавасць гледачоў, карацей, усё, што павінен выклікаць арыгінальны і таленавіты мастацкі твор. Тэарэтызаваць з нагоды мастацкіх твораў і мастакоўскіх канцэпцый люблю і я.***





# ТЭАТР ПАД СОНЦАМ І СРЭБНЫМ ДАЖДЖОМ

**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ. Гаворка пра тое, што тэатр памірае, перыядычна вядзецца ад часоў антычнасці. Тэатр, аднак, гэтак жа перыядычна адраджаецца. Але ў якой ён стадыі сёння? Для мяне гэты перыяд "тэатральнага жыцця" асацыіруецца з выказваннем Станіслаўскага, які характарызаваў тэатр сваёй маладосці як засілле камедый, фарсаў, вар'етэ, спалучэнне тэатра і цырка, тэатра і рэстарана, ператварэнне мастацтва ў шоу-бізнес.**

**Віталь БАРКОЎСКІ.** Кожны дзень тэатр памірае, і кожны дзень — адраджаецца. Павінен быць тэатр для гледача і тэатр для публікі. Гледача хапае на тры спектаклі — нават у самых вялікіх цывілізаваных гарадах. Тэатр гледача — тая планка, пра якую марылі і Станіслаўскі з Немировічам-Данчанкам, і Вахтангаў, і Таіраў, і Меерхольд, і наш сучаснік Анатоль Васільеў, і літовец Някрошус. Апошні, аднак, зразумеў, што трэба працаваць і для публікі. Хаця публіка, прабачце, гэта "дурніца". Публіка шукае толькі задавальнення сваіх эмоцый. Але тэатр — гэта яшчэ і прадпрыемства, якое рыхтуе творы, што будуць мець шырокі попыт. Такая спадчына засталася нам ад сацыяльнага ладу, калі мастацтва павінна было абслугоўваць усіх, быць усім зразумелым.

**Л. Р.** Значыць, сапраўдны тэатр — элітарны, не для ўсіх?

**В. Б.** Фаіна Ранеўская казала, што сапраўднае мастацтва не ў тэатры, а ў Трацьякоўскай галерэі. А я скажу яшчэ пра тое, што сапраўднае мастацтва не заўсёды даходзіць да подыума. Я за сваё жыццё пахаваў шмат творцаў, пра якіх у асяродку мастацкай інтэлігенцыі даўно забыліся. Яны не былі ні лаўрэатамі, ні народнымі, але пакінулі значны след у нацыянальнай культуры. Я думаю, што калі настане больш разумны час, пачне актыўна даследавацца мастацтва андэграўнду, мастацтва не прызнанае "афіцыйна", і напішацца зусім іншая гісторыя сучаснага нам тэатра, чым тая, якую мы сёння ведаем.

**Л. Р.** Кажуць, што калі фільм мае масавага гледача — гэта бізнес, калі не мае — гэта мастацтва. У вашым тэатры ёсць падобныя прыклады?

**В. Б.** Не толькі ў маім тэатры, і не толькі ў тэатры. Ці ёсць сёння масавы чытач у Міхася Стральцова і Алеся Адамовіча? Калі казаць пра тэатр — ці многа на Беларусі зараз разважаюць пра творчасць рэжысёраў Юрыя Міроненкі і Ганны Каменскай? Артыстаў Леаніда Крука і Міколы Смірнова? Ці многія іх увогуле памятаюць? А гэтых творцаў я магу паставіць вышэй за многіх, больш прызнаных афіцыйна. Гэтак жа, як і артыстку мінскага тэатра "Дзея" Тамару Міронаву, якая, на маю думку, даўно вартая звання народнай. Згадаю яшчэ Уладзіміра Матросава, які ўзрушае нас сваім талентам, дзякуючы якому на беларускай сцэне з'явіліся Бекет, Хлебнікаў, Дастаеўскі. У тэатральным жыцці робіцца многае, чаму немагчыма супрацьстаяць. І вінаватыя ў гэтым не ўлады, а сам тэатральны асяродак, які залежны ад інерцыі мыслення , стэрэатыпаў. Пануе нежаданне падтрымліваць адзін аднаго, прызнаваць чужы талент. Пакуль рэгаліі будуць размяркоўвацца "кулуарна" — многае сапраўднае ў мастацтве будзе схаванае ад масавага гледача.

**Л. Р.** Апошнім часам даводзіцца чуць пра "моўны бар'ер" — маўляў, у перакладзе на рускую мову кніжка прачытаецца лепей, чым на беларускай , на рускамоўную версію спектакля прыйдзе больш гледача...

**В. Б.** Глупства! Нават з вопыту нашага тэатра вынікае, што на беларускія спектаклі гледачы ідуць больш ахвотна, чым на рускія. Галоўнае — што ўклаў у сваю працу творца, наколькі ён шчыра служыць роднай культуры. Бо творца мае значэнне не толькі суадносна з тым, што ён зрабіў для Бацькаўшчыны, а не наколькі ён "улавіў" кан'юнктуру. Успомнім незаслужана сёння забытага Міколу Трухана, які стварыў беларускі тэатр "ДзеЯ". Мікола Трухан паўсюль размаўляў на беларускай мове, і ў рэпертуары свайго тэатра адкрываў для публікі беларускіх аўтараў, перш за ўсё — Аляхновіча. Не сакрэт, што часам, адпрацаваўшы на сцэне на беларускай мове, артысты ў антракце гавораць па-руску. Такія адносіны перадаюцца і гледачу. Гэта агульная бяда нашай нацыянальнай культуры. Выхаванае ў беларускай традыцыі дзіця ідзе ў садок, а пасля просіць бацькоў: "Можна я буду дома гаварыць па-беларуску, а на вуліцы — па-руску?" Бо хтосьці насмяяўся з яго мовы, хтосьці не зразумеў яго, ці проста здзівіўся, чаму ён гаворыць не так, як усе. Горш, калі так учыняе дарослы чалавек. Беларуская мова павінна быць мовай, з якой чалавек жыве, на якой думае, творыць.

**Л. Р.** У вашым тэатры падобных праблем не ўзнікала?

**В. Б.** Часам збоку гучалі прапановы зрабіць тэатр рускамоўным. Але я ўпэўнены — гэта не той шлях, на якім тэатр можа захаваць сваю славу і годнасць. У нас працавалі і працуюць цудоўныя, таленавітыя людзі, якім дарагая беларуская культура — рэжысёры Валерый Мазынскі і Валерый Маслюк, колішні дырэктар тэатра Геральд Асвяцінскі, які ў свой час запрасіў на працу загадчыкам літчасткі знаўцу беларускай літаратуры Уладзіміра Ганчарова. Падтрымлівалі і патрымліваюць гонар беларускага тэатра і сённяшні наш дырэктар Рыгор Шацько, загадчыца літаратурнай часткі Святлана Дашкевіч, дырэктар трупы Віктар Дашкевіч, галоўны мастак Пятро Анашчанка, артыст Алесь Лабанок, які сябраваў з Улазіміраm Караткевічам і сябруе з Алесем Разанавым, артыст Пятро Ламан, вядомы як пісьменнік. Цяжка нават пералічыць усіх, хто тэатр ганарыцца і хто складае яго гонар — Тадэуш Кокштыс, Генадзь Гайдук, Міхась Краснабаеў, Валянцін Салаўёў, Юрась Цвірка, Людміла Пісарава, Раіса Грыбовіч, Валянціна Петрачкова, Святлана Жукоўская, Наталля Аладка... Нельга не згадаць і пайшоўшых з жыцця артыстаў Баляслава Сяўко і Яўгена Шыпілу. Як бачыце, было і ёсць каму захоўваць беларускае слова на сцэне.

**Л. Р.** У прафесійных, акадэмічных тэатрах нярэдка ўзнікаюць праблемы ў працы з маладымі.

**В. Б.** Я заўсёды стараюся даць магчымасць усім акцёрам выявіць сябе. Яшчэ Валерый Маслюк распрацоўваў ідэю неабходнасці стварэння школьных тэатраў. Сёлета ў нас адбудзецца восьмы фестываль школьных тэатраў, у гэтым годзе ён упершыню набыў статус рэспубліканскага. У гэтым — вялікая стваральная энергія будучага. На кожным фестывалі я бачу адзін-два спектаклі, дзве-тры асобы, якія сведчаць, — не загіне нацыянальная культура, не загіне Беларусь. Вялікая заваёва тэатра — студыя, якая дае магчымасць маладым таленавітым людзям на працягу двух гадоў асвойваць акцёрскую прафесію. Кіруе студыяй Аляксандр Нісневіч. Потым самыя адораныя са студыйцаў рэкамендуюцца для навучання ў акадэміі мастацтваў. Сёння 14 маладых артыстаў, нашых былых студыйцаў, працуюць у тэатры і завочна займаюцца ў акадэміі. У іх цудоўны выкладчык Юры Лізянкевіч.

**Л. Р.** Чым збіраецеся здзівіць гледача ў будучым?

**В. Б.** Літоўскі тэатразнаўца Эгмунд Янсан, які сябраваў з нашым тэатрам, на пытанне, што сёння ставіць, каб прывабіць гледача, адказвае так: "Не важна, што, важна, як".

**Л. Р.** Вы гатовыя спраўдзіць вядомую прымаўку, што добры рэжысёр здольны паставіць папулярны спектакль па тэлефонным даведніку?

**В. Б.** Я магу зрабіць і гэта. Але на сёння ёсць у тэатра і больш "традыцыйныя" прапановы. Толькі што закончана праца над спектаклем па п'есе Сакрата Яновіча "От цо да". Герой п'есы — выбітны дзеяч беларушчыны Браніслаў Тарашкевіч. У новым сезоне ўбачаць гледачы і спектакль па творах Янкі Купалы "Сон на кургане".

**Л. Р.** Калі згадваецца імя Віталя Баркоўскага, абавязкова згадваецца і яго "пластычны тэатр". Што гэта такое?

**В. Б.** Пластычны тэатр — гэта не толькі пластыка. Гэта спалучэнне слова, музыкі, пластыкі і святла. Слова сёння зацяганае, яго заездзілі, як "сіўку-бурку", нацерлі яму бакі. Слова дыскрэдытаванае няшчырымі, несумленнымі творцамі. Таму глядач больш давярае не слову, а таму, што бачыць. Моладзі гэта зразумела, гледачы старэйшага пакалення ўпрымаюць не заўсёды. Але гэта — маё, мастакоўскае.

**Л. Р.** У чым асаблівасць менавіта беларускага тэатральнага працэсу?

**В. Б.** Хвароба беларускіх тэатраў — калі арыентуюцца не на грамадзянскую годнасць, а на неабходнасць. Гогаль параўноўваў тэатр з кафедрай, з якой шмат можа быць прамоўлена ісцін. А мы сёння спускаемся з кафедры да паслуг абывацелю, да гульняў з уладай. Гісторыя тэатра — гэта гісторыя грамадства. Праблема беларускага тэатра і ў тым, што не хапае рэжысёраў. Сёння ёсць некалькі тэатраў, якія проста не маюць мастацкіх кіраўнікоў. І я разумею гэтае становішча — лепш без кіраўніка, чым з неталенавітай, шэрай асобай на чале, або лепш запрасіць рэжысёраў з замежжа. Праўда, застаецца надзея на моладзь. Я веру, што павінны прыйсці новыя таленты.

**Л.Р.** Думаю, яны абавязкова прыйдуць. І ў тым ліку дзякуючы вашай працы.



**Мастацкую кінастужку «Нябачны вандроўнік» прапануюць увазе гледачоў кінамайстры Расіі. Аўтар сцэнарыя – Ігар Таланкін, рэжысёры-пастаноўшчыкі – Ігар і Дзмітрый Таланкіны.**

**У цэнтры кінаапавядання – вядомая легенда пра апошнія дні імператара Аляксандра I.**

**...Аляксандр Паўлавіч лічыць сябе вінаватым у смерці бацькі, расчараваны жыццём ён бачыць, што ўсе яго добрыя пачынанні абарочваюцца для Расіі новымі бедамі.**

**Адпачываючы ў Таганрозе з безнадзейна хворай імператрыцай Елізаветай Аляксееўнай, ён становіцца сведкам смерці старога салдата, закатаванага шпіцрутэнамі. Уражаны сваім знешнім падабенствам з ахвярай, імператар прымае рашэнне інсцэнаваць смерць, выдаўшы сябе за памерлага.**

**Гэта дазволіла Аляксандру I ажыццявіць сваю даўнюю мару: скінуць цяжар кароны, даць Расіі новага і, як ён думаў, лепшага манарха – маладога, моцнага і энергічнага Мікалая I, а самому прысвяціць сябе толькі Богу...**

**У фільме заняты папулярныя кінаакцёры Васіль Ланавы, Ала Дзямідава, Анатоль Рамашын, Георгій Жжонаў, Уладзімір Гасцюхін.**

**Кінематаграфісты Велікабрытаніі стварылі мастацкую карціну "Лівень". Яе пастаноўку ажыццявіў рэжысёр Міхаэль Саламон, сцэнарый напісаў Грэхэм Йост.**




**Праліўныя дажджы абваліліся на амерыканскі гарадок Ханцінберг, напалову затапіўшы яго. Улады тэрмінова эвакуіруюць насельніцтва, пакуль плаціна яшчэ стрымлівае націск ракі, што выйшла з берагоў. І ў той час, як адны спрабуюць хоць неяк супрацьстаяць стыхіі, другія выкарыстоўваюць сітуацыю ў карыслівых мэтах. Марадзёры рабуюць магазіны і дамы, пакінутыя гаспадарамі, а некалькі энергічных малойцаў захапілі браніраваны трэйлер, на якім інкасатары везлі ў банк тры мільёны долараў.**

**Галоўных герояў іграюць Морган Фрымен, Крысціан Слейтэр, Рэндзі Куэйд, Міні Драйвер.**

**Змогуць паглядзець кінатэатры і французскую мастацкую стужку "Вядзьмарскае каханне". Аўтар сцэнарыя і рэжысёр – Кармі Амазора.**

**Ці думаў Майкл Феф, даволі нармальны, хаця і разбалаваны славай геніяльны вынаходнік, што дзелавая паездка ў Парыж прывядзе яго ў свет сучасных калдуноў, і што ён апынецца ў эпіцэнтры жорсткага супрацьстаяння. Фатальную ролю сыграла дата яго нараджэння. У карціне здымаліся Ванеса Парадзі, Джыл Белоўз, Жан Рэно, Жана Маро.**

**Будзе паказвацца ў кінатэатрах і амерыканская мастацкая кінастужка "У апошні момант", пастаўленая рэжысёрам Шонам Леві па сцэнарыю Эрыка Тачмана.**

**У выпадку нясчаснага выпадку бліскучы бізнесмен Майкл губляе жонку, і яго сямігадовая дачка засталася без маці. Ён робіць усе, каб наладзіць жыццё. Але паглыблены ў працу, ён забывае пра выхаванне дачкі.**

**Лілі капрызнічае, палохаючы сваімі выхадкамі нянек, якіх з цяжкасцю адшуквае ёй бацька. Выгнана чарговая матулька, і Майкл згаджаецца на варыянт, знойдзены самой дачкой. У абліччы нянькі перад Майклам прадстае маладзенькая дзёрзкая афіцыянтка Фейт, з якой Лілі пазнаёмілася выпадкова ў кафэ. Прывабная дзяўчына хутка заваёўвае любоў капрызнай дзяўчынкі. Бацька шчаслівы, што дачка задаволена. Аднак у ідылічны саюз дзяўчынкі і яе нянькі груба ўрываецца жаніх Фейт...**

**У ролях – Марк Модес, Рэбека Чамберс, Брыцелі Эліс Сміт, Мікол Меркурыя.**

**Аляксандр БОГДАН**
**Канстанцін РАМАНОЎСКІ**



# СЫН НАРАДЗІЎСЯ

Пятру Піліпчуку не шанцавала на сына. Кабета яго, Марыя, здатнай аказалася на дзятву. Лічы, што ні год, то ўдод. Ды адна бяда — гэтыя ўсе "ўдоды" былі жаночага роду. А іх нямнога-нямала аказалася — аж шасцёра. І ўсе на яго падобныя — круглатварыя, чарнабровыя, усмешлівыя.

Напачатку Пятрок у адказ на кпіны мужчын — кладзі нанач сякеру ці ружжо пад падушку — смяяўся: нічога, я малады, мой сын яшчэ будзе. Але калі нарадзілася пятая дзяўчынка, неяк зніякавеў, апанурыўся, моўчкі адмахваўся ад кпінаў, куды яго і смяшлівасць падзелася. А сам жонцы не-не ды й кіне са злосцю: ну што ты, хлопца нарадзіць не можаш, ці што? Тая злавалася ў адказ: можа, ты зможаш — дык нарадзі!

Калі ж жонка ў шосты раз зацяжарыла, Пятрок абнадзеіўся: будзе сын. Бо дужа ж ужо цяжарнасць была неардынарная. Марыя пераносіла яе цяжка. Ды і чуў, як бабы гаварылі: будзе ў цябе, Марылька, сын, бо дзевак ты вунь як лёгка насіла і нараджала, а тут ледзь ходзіш...

Аднак і ў шосты раз Марыя нарадзіла дзяўчынку. Ды прыгажуню!

Зусім заелі сябрукі Пятра пасля гэтага сямейнага прыбытку, зусім яго настрой збіўся. Аднойчы нават на Марыю руку падняў, калі нападпітку быў. Ды потым асеў душой, паспакайнеў. Днямі рабіў у полі, вечарамі няньчыўся з малымі. Нават сам пачаў з мужчын кпіць: будзеце яшчэ са сваімі бэйбусамі ў сваты прыходзіць, дык я вас і на парог не пушчу, бо мае дзеўкі не раўня вашым абэлтухам. І калі жонка сказала, што ў іх будзе сёмае дзіця, весела загукаў:

— Гані, Маня, да дзесятка! Будзе як *у той песні: дзесяць дзевак — адзін я, куды дзеўкі — туды я.*

Хутка прабеглі тыдні-месяцы, і аднойчы завёз Пятрок сваю Марыю ў раддом. Назаўтра хацеў праведаць у абед, ды брыгадзір не пусціў:

— Што народзіць — усё тваё, а поле засеяць трэба.

Вечарам сабраў Пятрок перадачу — паўдзесятка яек адварыў усмятку, малака наліў слоік. У сельмагу купіў пернікаў, соку. Доўга ў раддоме стаяў каля зачыненага вакенца, потым нясмела пастукаў. Пажылая сястра ці нянечка паказалася ў белай амбразурцы амаль адразу, пазнала яго, бо быў ён тут не першы раз, заўсміхалася:

— Віншую, сын у вас!

Дыханне перахапіла ў Піліпчука, неяк самі па сабе на вочы набеглі празрыстыя слязінкі.

— Як сын? — не паверыў. Ён ужо і забыўся, што акрамя дачок і сыны яшчэ бываюць.

— Ды вось так, — адказала беласнежнае стварэнне ў застарэлых змаршчаках. — Тры кіло трыста. Крычыць неўгалас, пэўна, спеваком будзе. Дык мо перадаць што?

Пятро нязграбна сунуў ледзь не ў твар нянечцы пакунак, няўцямна прамармытаў:

— Дзякуй перадайце, заўтра я яшчэ прыйду, — і нявернаю хадою, бы п'яны, накіраваўся да выхаду.

"Сын, сын у мне нарадзіўся", — усё крычала і спявала ў ім. Радасць і гордасць распіралі грудзі. Ён ішоў па вуліцы і ўсіх шчыра, ад вуха да вуха, усміхаўся. Калі трапляў у конус святла ад ліхтара, сустрэчныя здзіўлена глядзелі на яго, асобныя ўсміхаліся ў адказ, доўга азіраліся ўслед і, зразумеўшы адкуль ён ідзе, смяяліся — ашалеў чалавек ад шчасця.

Толькі адышоўшыся ад раддома метраў дзвесце, успомніў, што забыў пад акном веласіпед. Вярнуўся забраў свайго двухколавага каня, паціху пакруціў дадому...

Хлопец рос бы на дражджах. Ужо ў дзесяць месяцаў пачаў тупаць, у год з нечым добра загаварыў.

— Увесь у дзеда, — радаваўся Пятрок. — Такі ж жвавы, разумны.

Год бег за годам, але дзяцей у Піліпчукоў болей не з'яўлялася. Быццам з нараджэннем сына бацькі паставілі кропку. Была ў Пятра спакуса яшчэ сына адчыбучыць, ды нешта не атрымлівалася — узрост, пэўна, пачаў сказвацца.

А сынок, Дзіма, рос ды рос. Не прыкмецілі, як і ў школу пайшоў. Дзіва што — сястрычкі не маглі надыхацца на брацікa (ды і бацькі таксама): Дзімулечка, мо табе тое, мо табе гэта?

Адно засмучала бацькоў, сын быў занадта жвавы: усё, што трапляла пад рукі, крышыў, ламаў. А толькі пачыналі яго ўшчуваць, такі лямант падымаў, што ўсе ад яго адступаліся.

Недзе да шостага класа Дзіма вучыўся нядрэнна. А потым спакваля пачаў не дужа ўлягаць у вучобу, нават прапускаць урокі. Бывалі выпадкі, што на цэлы дзень збягаў на рэчку, закінуўшы кніжкі пад бэзавы куст. Настаўнікі пачалі пісаць запіскі бацькам, выклікаць у школу. Ды і на бацькоўскіх сходах нямала непрыемнага гаварылі пра яго сынка.

Пятрок пасля такіх размоў гутарыў з Дзімам і па-добраму, і папругай неаднойчы праходзіўся па мяккім месцы. Пасля такіх "разборак" сын тыдзень-другі быў хлопец як хлопец, а потым браўся за старое. Звязаўся з Васілём Рыбаковым, Валерыкам Шчыгровым, а гэта хлопцы былі, што называецца, з невельмі добрых сем'яў — бацькі п'янствавалі, лайдачылі, жылі ад палучкі да палучкі. Хлопцы шасталі па агародах, садах, цішком курылі, спрабавалі выпіваць.

Прыйшоў аднойчы на падпітку і Дзіма. Да таго ж і тытунём ад яго патыхала. Ён ужо быў у восьмым класе, і калі бацька паспрабаваў выкарыстаць выпрабаваны метад уздзеяння — папругу, то ледзь не атрымаў здачы.

Плюнуў Пятрок на сына: жыві як хочаш!

З *горам папалам* Дзмітрый здаў экзамены за восем класаў, разам з сябрукамі падаўся у горад у прафтэхвучылішча. Напачатку часта прыязджаў дамоў — то бульбы з салам узяць, то капейчыну якую. А потым як у ваду кануў. Вяскоўцы, што бывалі ў горадзе, бачылі, праўда, сына ў кампаніі з Васілём і Валерыкам на добрым падпітку, а потым дайшла чутка, што за нейкія справы — ці то крадзеж, ці то хуліганства — Валерыка і Васіля пасадзілі.

— Усё, і мой там, — са скрухай і роспачча думаў Пятрок. — Даскакаліся, далайдачыліся абэлтухі. Цяпер з турмы ім не вылазіць.

Прайшло яшчэ некалькі год. І аднойчы на адрас Піліпчукоў прыйшло пісьмо з далёкага Магадана. Почырк здаўся Петраку знаёмым. Ён адкрыў пісьмо і прачытаў: "Добры дзень, дарагія тата і мама! Пішa вам ваш сын Дзмітрый. У мяне ўсё добра, хутка канчаецца тэрмін майго кантракту і я прыеду дадому. Табе, тата, у падарунак прывязу футравыя унты, а маці — футра з пясца. Што-нішто і сёстрам прыдбаў..."

Пятрок дачытаў пісьмо да канца, са злосцю шпурнуў яго ў кут — пэўна, тэрмін адседжвае, шалапут. Украў, мусіць, тыя ўнты ды футра. Яшчэ зноў сядзе. Кантракт нейкі выдумаў, пісаў бы лепей прама: адсяджу тэрмін, прыеду.

...У той дзень Пятрок на абед спазніўся. Жонка была ўжо на ферме, і ён пайшоў адразу да схованкі за ключом. Ключа на месцы не было. "Во й паабедаў, — са злосцю падумаў гаспадар, — ключ забыла пакінуць". Прахадзячы міма хаты, зірнуў на дзверы — замка не было. Значыць, дома нехта быў...

На верандзе скінуў боты, ватоўку, памыў рукі, затым рушыў у хату. Зазірнуў на кухню, у залу — нідзе нікога не было. Але на спінцы крэсла вісеў пінжак, побач стаялі вялізны чамадан і дарожная сумка. І тут Пятрок пачуў, што за фіранкай нехта пасопвае. Адхінуў парклевую завеску і ўбачыў... сына. Гэта быў ужо не той пэтэушнік, а моцны, дарослы мужчына са шрамам чорных вусоў пад носам. Ад нечаканасці ў яго аслаблі ногі, трывожна забілася сэрца. Няўпэўненымі крокамі дайшоў да крэсла, прысеў. Ды неяк нялоўка, бо зачапіў пінжак і той упаў на падлогу. Калі Пятрок падымаў адзежыну, яна падалася яму надта цяжкай. "Няўжо зброя? — разанула галаву думка. — Вось дык госць!"

Пятрок абмацаў пінжак і выявіў, што за падкладкай у ім зашыты нейкія пліткі накшталт шакаладных, але значна таўсцейшыя. "Дык гэта ж грошы! — апякла думка. — Шмат грошай. Некага абакраў, дамоў прыехаў хавацца".

Яшчэ больш упэўніўся ў сваім меркаванні Піліпчук, калі заглянуў у чамадан і сумку — там было шмат усялякага дабра, уключаючы памянёныя ў пісьме ўнты, футра, а таксама дарагія каньякі, імпартныя цыгарэты. "Цяпер ужо не выкруціцца, яшчэ і нас як пасобнікаў пасадзяць. Ох, гора, гора, каго вырасціў на сваю галаву", — са скрухай і болем у сэрцы ўздыхнуў бацька, нервова пакурваючы "Астру".

Калі Дзмітрый прачнуўся і, пазяхаючы, выйшаў са спальні, то ўбачыў, што ўсю залу заняла радня. За сталом сядзелі бацька, аберуч дзядзькі Сымон і Васіль. На канапе, зэдліках, крэслах — дзядзіны, сёстры, пляменнікі.

— Вось малайцы, што сабраліся, — радасна загукаў Дзмітрый. — Добры дзень усім...

— Сядай, — рэзка абарваў яго бацька і паказаў на крэсла, што стаяла асобна пасярод залы. — Судзіць цябе будзем!

— Судзіць? — зарагатаў сын. — Навошта такія жарты, тата, давай лепей абдымемся — і памкнуўся было да стала.

— Сядай, — жорстка сказаў Пятрок. Усе астатнія маўчалі, пазіраючы хто з жалем, хто з асуджэннем на Дзмітрыя.

Тут толькі ён заўважыў, што на стале ляжаць пачкі грошай, чамадан і сумка расчынены і ўсе рэчы выкладзены нібы на продаж.

— Так..., — працадзіў бацька. — А раскажы-ка ты, сынок, дзе усё гэта ўзяў? — паказаў рукой на грошы і рэчы.

— Зарабіў.

— Зарабіў? — скрывіўся Пятрок. Ці не начны гэта заробак?

— А як жа, і ноччу прыходзілася, і ў дзве-тры змены, калі патрэбна.

— Дакументы! — рэзка запатрабаваў бацька. — Дзе быў? Колькі далі? За што?

Дзмітрый падбег да чамадана, адшпіліў кішэньку ў крышцы, выцягнуў адтуль стос папер, паклаў на стол.

Бацька начапіў акуляры, голасна пачаў чытаць:

— "Прыняты машыністам-апэратарам драгі на прыіск "Шчаслівы"... Дата, подпіс. Звольнены з работы па ўласным жаданні. Дата, подпіс. Тэк... Разліковы ліст за ліпень. Налічана 600 тысяч рублёў, адлічэнне на ашчадкніжку, падаходны, прафсаюзны... Да выдачы 80 тысяч...

Бацька папярхнуўся:

— Як гэта — 80 тысяч? Я ж тут 40-50 тысяч беларускімі ледзь выцягваю, хоць і дзень, і ноч гарбачуся.

— Ды вось за гэтыя рукі, працягнуў Дзмітрый наперад далоні. — Яны ж залатыя, бо я ж колькі год золата здабываў...

У хаце стала ціха. Бацька недаверліва пералістаў паперы, бы неўзнарок, кранаў тугія пачкі соценных і тысячных білетаў, раз-пораз кідаў позірк у бок сына. Паступова вочы яго цяплелі, твар станавіўся святлейшым. Усе маўчалі.

І тут Пятрок падняўся, падышоў да Дзмітрыя, моўчкі абняў яго, пацалаваў. Потым павярнуўся да родзічаў:

— Маці, рэж пеўня. І гуся забі. Налўкі, дзеўкі, цягніце са склепа. Гулянь будзем, у мяне сын нарадзіўся!

**Іван СУРМАН**

ГІСТОРЫЯ І СУЧАСНАСЦЬ

***Сёлета самаму старажытнаму ацалеламу касцёлу на Беларусі спаўняецца 570 год. Да яго шлях няблізкі: трэба дабірацца да старажытнага Наваградка і далей — 14 км. Сярод узлескаў і палёў: на рэчцы Пліса месціцца Усялюб. Зараз гэта мястэчка падобна на сярэднюю вёсачку і сустракае драўлянымі хатамі, недабудаваным цагляным мурам — доўгабудовам з пустымі ваконцамі. Доўгая вуліца з выбітым асфальтам, пад якім бачны камяні старажытнага бруку.***



Кветкі амаль ля кожнай хаты. Прыгожыя, дагледжаныя, розных гатункаў і колеру. Адразу ўспаміны вяртаюцца ў твор Элізы Ажэшкі "Людзі і кветкі над Нёманам".

На сярэдзіне вуліцы — прыгожы цагляны дамок XIX ст. Адмысловая кладка цэглы: карнізы, аздабленне вакон, пілястры. Каваныя жалезныя кансолі падтрымліваюць стрэмку над уваходам. Будынак занядбаны.

Невядома калі з'явіўся Усялюб, але праз яго праходзіць самы кароткі шлях з Наваградка ў Вільню, з першай у другую сталіцу Вялікага Княства Літоўскага.

# КАСЦЁЛ У МЯСТЭЧКУ УСЕЛЮБ

Сёння Усялюб найбольш славуты сваім старажытным касцёлам. Пабудаваны ён у 1433 годзе на фундаменце канюшага Яна Няміры і першапачаткова асвечаны ў гонар Яна Хрысціцеля. Гэта найстаражытнейшы незруйнаваны касцёл Беларусі. Зараз храм асвечаны ў гонар святога Казіміра. Будынак мае рысы готыкі. Асноўны аб'ём амаль квадратны, а некалі пасярэдзіне яго існаваў слуп (кафалікона), які трымаў мураваныя скляпенні. Яны абваліліся пры пажары ў XVI ст. Зараз столь касцёла драўляная. Да галоўнай залы далучаецца пяціграннная апсіда з дзвюма захрысціямі. Левая — старажытная, правая дабудавана з семетрыяй у XIX ст. Тады ж дабудавана і 3-х ярусная вежа-званіца наперадзе храма. Умацаваны касцёл быў вялікімі прыступкамі контрфорстамі. Зараз яны захаваліся толькі ў фасадзе храма.

За час існавання касцёл перажыў шматлікія разарэнні, але моцныя, у паўтара метра, мураваныя сцены вытрымалі. Але, на жаль, страчаныя старажытныя каштоўныя алтары ды абразы. Зараз унутры храма толькі пабеленыя сцены. Дзякуючы руплівасці мясцовых жыхароў, помнік закансерваваны, не разбураецца далей.

Мясцовыя бабулькі ўспамінаюць як пасля вайны, у 1950-х гадах, касцёл быў зачынены мясцовымі ўладамі па загадзе "зверху". У касцёле была адкрыта спартыўная зала школы. Малады настаўнік фізкультуры прымацоўваў у зале "шведскую сценку", калі раптам нешта прымусіла яго азірнуцца. У галоўным алтары ён убачыў жанчыну ў белым адзенні. Моўчкі, са смуткам пазірала яна на яго. Хутка гэтая навіна разляцелася па мястэчку і ваколіцах. Настаўнік сцвярджаў што гэта была Маці Божая. Настаўнік быў камсамольцам і атэістам, але пасля здарэння ён адмовіўся праводзіць заняткі фізкультуры ў касцёле.



З'яўленне Маці Божай не дазволіла ганяць мячык у храме. Тады бязбожныя начальнікі — як кажуць бабулі — вырашылі касцёл знішчыць. Для справы гэтай мясцовых жыхароў не знайшлі. Прывезлі двух братоў-татар з Наваградка. Касцёл быў падпалены і згарэў. А потым, тым самым летам, той, што падпальваў касцёл, утапіўся ў Нёмане.

Знішчаны пажарам "нічыйны" храм стаяў да 1986 года, калі Усялюбская парафія вярнула сабе касцёл. А ў 1988 годзе, пад кіраваннем ксяндза Антонія Дзясянкі пачалася адбудова. Храм асвечаны нанова 14 верасня 1991 года, як касцёл св. Казіміра.

Зараз храм дзейнічае. Велічна глядзіцца ён пасярод невялікай паляны, утворанай старымі могілкамі і паркам. Гэтае ўтульнае ціхае месца аздоблена капліцай Маці Божай і кветнічкамі. У цэнтры старажытных могілак, што побач з касцёлам, месціцца фамільная капліца-пахавальня Арурказічаў — апошніх гаспадароў уселюбскага маёнтка. Да капліцы ад касцёла вядзе алея. Менавіта каля касцёла была некалі брама ў парк. Парк у старажытным маёнтку добра захаваўся. Ён адносіцца да пейзажных, што прыйшлі з XIX ст. на змену рэгулярным паркам XVIII ст. Месціцца ён на ўзгорку правага берага невялікай ракі Пліса. На Плісе ёсць вадзяны млын. Ягоны будынак захаваўся, але не мае ні акон, ні дзвярэй. А між тым яшчэ нядаўна млын працаваў. Варта было б адчыніць у ім музей млынарства. Да таго ж зрабіць гэта зараз няцяжка пакуль не загінула рэдкае арыгінальнае абсталяванне.

Былая прыгажосць Уселюба найбольш адчуваецца ў парку. Яго ніхто не "ўдаскапальваў". Ён толькі патроху зарастаў хмызняком і амаль ператвараўся ў лес. Але парк усёроўна — гэта парк: шматлікія экзоты — лістоўніца, граб, вяз, зрэдку арэх узвышаюцца над сцежкамі. Часткова захаваліся астраўкі ліпы, ясеня, клёна. Са старых алей адкрываюцца прыгожыя краявіды на Плісу.

Апошняга валадара маёнтка графа Арурказіча мясцовыя жыхары яшчэ памятаюць. Ахвотна, са шкадаваннем апавядаюць пра ягоны лёс. Арурказіча ўсе памятаюць як вельмі лагоднага чалавека. У 1939 годзе ён не пакінуў свой маёнтак. Энкавэдэшнікі арыштавалі яго і павезлі на колах у Навагрудак. Граф быў ужо стары і нямоглы. Да таго ж для яго, паважанага шляхціца гэта было ганьбаю. Не даехаўшы да Наваградка, Арурказіч сканаў.

Такая вось гісторыя і сучаснасць аднаго куточка Беларусі. На шчасце, ёсць у нас моцныя карэнні. Ёсць да чаго прыхінуцца і з чаго пачаць Адраджэнне.

Кастусь НЯМКОВІЧ

ДАНІНА ПАМЯЦІ

# ПАЭТ З СУМНАЙ ДУШОЮ

***Беларускі часопіс "Шлях моладзі" ў ліпені-жніўні 1933 года пісаў: "Дваццаць чацьвёртага чэрвеня гэтага году, седзячы над берагам Нёмана, каля роднае вёскі Мінявічы Луненскай гміны Гарадзенскага павета, выстралам з рэвальверу перарваў сабе жыццё малады беларускі паэт Міхась Явар (Карась). Родная сястра паэта, відаць, прадчуваючы нешта кепскае, сачыла за братам і калі пабачыла, што ён хоча сабе адабраць жыццё, хацела яму ў гэтым перашкодзіць, але было ўжо запозна, бо скіраваны ў грудзі рэвальвер выстраліў. І хоць куля ў сэрца не трапіла, аднак нанесла цяжкую рану — у выніку чаго 27-га чэрвеня Міхась Явар сканаў у Горадні, куды перавезены быў на лекі. Міхась Явар з'яўляўся нашым сталым супрацоўнікам. Ягоныя творы былі друкаваны на бачынах "Шляху моладзі"... Паходзіў Міхась Явар з небагатае беларускае сялянскае сям'і. Ён глыбока перажываў сучасныя падзеі і цяжкае становішча беларускага народа. Здароўе меў слабое і доўга хварэў на сухоты. Апошнім жа часам трапіў ён у цяжкія жыццёвыя абставіны. Усё гэта так забойча дзеіла на ягоную маладую душу, што нэрвы больш не маглі вытрымаць...".***

З той трагічнай смерці паэта прайшло 70 гадоў. І 100 гадоў з дня яго нараджэння. Менавіта гэтыя дзве даты нядаўна адзначыла творчая інтэлігенцыя Мастоўшчыны. Ушанаванне адбылося ў вёсцы Лунна Мастоўскага раёна. Адна з вуліц гэтай вялікай вёскі з 1991 года пачала насіць імя Міхася Явара, а на мясцовых могілках знаходзіцца магіла паэта. На магіле ўстаноўлены помнік з граніту, які вырабіў і ўсталяваў мастоўскі майстар Вячаслаў Халько.

На магілу Міхася Явара яго землякі ўсклалі кветкі, а пасля там адбыўся мітынг памяці. Яго адкрыў заслужаны работнік культуры Беларусі дырэктар Гудзевіцкага літаратурна-этнаграфічнага музея Алесь Белакоз. Алесь Мікалаевіч шмат гадоў збіраў літаратурную спадчыну свайго земляка, таму яго расказ пра Міхася Явара ўсіх вельмі зацікаў.

Нарадзіўся паэт Міхась Явар у 1903 годзе. Дзяцінства прайшло ў роднай вёскі Мінявічы Мастоўскага раёна, а з 1915 года ён быў у бежанстве. Там і адчуў юнак вялікі сум па родным Нёмане, па багатых беларускіх лясах, па нашых палях-паласаках. Пачуццё выключнасці родных Мінявічаў не пакідала Міхася Явара праз усё жыццё. Калі вярнуліся з бежанства, не было за што рук зачапіць. Зямлі мала, а сям'я вялікая: маці, малодшы брат Васіль і сёстры Люба і Вольга. Міхась пачаў рыбачыць на Нёмане. Хлопец ён быў вельмі спрытны і працавіты. Ведаў рыбныя месцы, вывучыў рыбіныя сакрэты, іх паводзіны ў розныя поры года і ў розные надвор'е. Рыбы ён лавіў шмат і прадаваў яе гандлярам ды службоўцам з мястэчка Лунна. А яшчэ Міхась Явар быў вельмі акуратным, заўсёды сціпла, але ахайна апрануты, паголеным і чыстым. Хоць меў невялікую адукацыю (тры класы), але многія лічылі яго інтэлігентам. І ён ім быў: вёў вялікую асветна-патрыятычную дзейнасць, пісаў вершы, якія друкаваліся на старонках часопіса "Шлях моладзі", у заходне-беларускіх газетах, арганізоўваў вечары з пастаноўкамі п'ес, з песнямі і танцамі, нават сам цудоўна спяваў. Асаблівую актыўнасць Міхась Явар выявіў у грамадоўскія дваццатыя гады, калі быў сябрам БСРГ..."

Алесь Белакоз расказаў таксама аб тым, што ў Гудзевіцкім музеі ў 1968 годзе створаны куток, які знаёміць наведвальнікаў з трагічным лёсам паэта-земляка. "За асабістыя грошы ўдалося заказаць у скульптара Станіслава Быка два бюсты Міхася Явара: адзін быў ахвяраваны для Лунненскага музея, а другі ўстаноўлены ў нашым Гудзевіцкім музеі, — працягваў Алесь Мікалаевіч".

З Лунна сённяшнія землякі Міхася Явара паехалі ў яго родную вёску Мінявічы, дзе яшчэ захавалася хата паэта. Уяўляеце, гэтай хаце больш за сто гадоў. Ды і сама вёска знаходзіцца ў маляўнічым месцы на крутым беразе Нёмана. Найпрыгажэйшае месца на Мастоўшчыне. Не любіць такую вёску і не быць паэтам проста немагчыма. Дарэчы, летам там часта жыла польская пісьменніца Эліза Ажэшка (1841-1910). У лютым 1887 года яна пісала Яну Карловічу: "Тры тыдні таму назад быў у мяне ваш добры знаёмы з Вільні пан Багушэвіч. Вельмі прыемна правяла з ім некалькі гадзін. Ён чытаў мне свае беларускія творы і нават даў мне іх копіі з асобным вершыкам, таксама напісаным для мяне па-беларуску. Будучым летам паспрабую чытаць іх маім мінявіцкім знаёмым". Добра было б, каб сёння ў хаце Міхася Явара зрабіць літаратурны музей. Хата ж незвычайная, яна як і сама вёска Мінявічы, мае непасрэднае значэнне ў гісторыі беларускай і польскай літаратур.

Што датычыць паэтычнай спадчыны Міхася Явара, дык яна амаль не захавалася. Перад смерцю куфэрак са сваімі вершамі, паэмамі і пісьмамі паэт занёс свайму сябру Вінцэку Мікулу. Калі пачалася вайна, Мікулу шукалі немцы. Жонка яго, баючыся, каб немцы не выявілі вершаў Міхася Явара, усе архівы знішчыла. Засталося толькі тое, што было апублікавана ў заходне-беларускім друку.

Побач з вёскаю Мінявічы на беразе Нёмана сёння ляжыць вялікі камень-валун. На сціплым 100-гадовым ушанаванні паэта было вырашана выбіць на камені два словы "Міхась Явар". Няхай Нёман, якога любіў паэт з Мастоўшчыны, сваімі хвалямі чытае гэтае імя.

Сяргей ЧЫГРЫН

**Калектыў рэдакцыі газеты "ЛіМ" выказвае глыбокае спачуванне народнаму паэту Беларусі Нілу Сымонавічу ПЛЕВІЧУ з прычыны напаткаўшага яго вялікага гора — смерці жонкі, Ніны Іванаўны.**

**Калектыў супрацоўнікаў Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры выказвае глыбокае спачуванне народнаму паэту Беларусі Нілу Сымонавічу ПЛЕВІЧУ ў сувязі з цяжкай стратай — смерцю жонкі, Ніны Іванаўны.**

**Калектыў супрацоўнікаў Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы выказвае шчырае спачуванне вядучаму купалазнаўцу, народнаму паэту, лаўрэату Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы, прафесару ПЛЕВІЧУ Нілу Сымонавічу з прычыны напаткаўшага яго непапраўнага гора — смерці жонкі.**

**Рэдакцыя часопіса "Вожык" выказвае глыбокае спачуванне народнаму пісьменніку Беларусі Нілу Сымонавічу ПЛЕВІЧУ з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці жонкі, Ніны Іванаўны.**

ВЫСТАВЫ

# ЗДАНІ МЕСЯЦОВАЙ НОЧЫ



***У рамках XII Міжнароднага фестывалю мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску" ў шматлікіх галерэях горада адкрыліся цікавыя выставы. Упершыню за гісторыю фэста (і ўвогуле культурнага жыцця Віцебска) у Краязнаўчым музеі была выстаўлена толькі адна карціна І. Рэпіна "Месяцовая ноч. Здраўнёва", 1896г. (з фондаў Нацыянальнага мастацкага музея РБ), якую зацікаўленай публіцы прадставілі дырэктар Музея-сядзібы І. Рэпіна "Здраўнёва" (сёння тут працуе пастаянная экспазіцыя, прысвечаная жыццю і творчасці вядомага мастака) А. Сухарукаў, дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея РБ У. Пракапцоў, а таксама дырэктар Краязнаўчага музея Віцебска В. Акуневіч.***

Многія, хто калі-небудзь наведвалі сядзібу Рэпіна ў Здраўнёва заставаліся ўражанымі, зачараванымі маляўнічай прыгажосцю тамтэйшых краявідаў. Любоў да Здраўнёва, народжаная летнім вечарам элегія згадваюцца ў вобразе "дамы з сабачкам" (Рэпіну пазіравала адна з яго дачок), якая назірае за ракой. Адметна, што прэзентацыя карціны "Месяцовая ноч. Здраўнёва" ладзілася ў атмасферы гучання пранікнёнага рускага раманса, які можна было пачуць "жыўцом" штодня ў зале, дзе экспануецца карціна.



Даволі запамінальная выстава распачалася падчас "Славянскага базару" ў Літаратурным музеі -- філіяле Краязнаўчага музея. Тут размясціліся творы адметных віцебскіх мастакоў А. Захарэвіча (жывапіс) і С. Сотнікава (скульптура). У багатай залацістымі, жоўтымі фарбамі карцінах А. Захарэвіча занатаваныя незвычайныя постаці жанчын ("Німфа", "Раніца пасля балю"), паэтычныя вобразы стасункаў паміж жанчынай і мужчынам ("Яднанне", "Знаёмства"), з'яднаных карнавалам жыцця. Скульптурныя кампазіцыі С. Сотнікава таксама прысвечаныя тэме кахання.

**В.Б.**

*НА ЗДЫМКАХ: карціна І. Рэпіна "Месяцовая ноч. Здраўнёва"; А. ЗАХАРЭВІЧ "Касцінг".*

КІНО

# СЦЕРАЖЫЦЕСЯ ЖАНЧЫН!

З 28 ліпеня на экраны сталічных кінатэтраў выйшаў новы галівудскі блокбастэр "Тэрмінатар-3. Паўстанне машын", які будзе дэманстравацца ў Мінску толькі чатыры тыдні (з 28 ліпеня па 10 жніўня – у кінатэатрах "Масква", "Кастрычнік", "Бярэсце", "Аўрора"; з 11 па 17 жніўня – "Кастрычнік", "Перамога"; з 18 па 25 жніўня – "Цэнтральны", "Мір"). Ужо дванаццаць год вядомы экшн-герой Тэрмінатар, ролю якога з поспехам увасабляў А. Шварцэнегер (за "Тэрмінатара-3" артыст атрымаў адзін з самых найвялікшых ганарараў – 35 млн. долараў), не мовіў з экрана сваю знакамітую фразу "Я вярнуся!". І вось, нарэшце, стваральнікі новага фільма (студыя C2 Pictures М. Касара і Э. Вайна, рэжысёр Д. Мастоу) зноў пацешылі публіку непаўторным абліччам робата-забойцы. (Праўда, як і ў папярэднім "Тэрмінатары" герой А. Шварцэнегера прыходзіць з будучыні, каб абараніць чалавецтва ад новай жудаснай машыны.)

На думку вядомага артыста, які ўдзельнічаў у прэзентацыі фільма на сённяшнім Канскім кінафестывалі, тэхналогіі развіваюцца занадта хутка, і калі іх не кантраляваць, то паследствы могуць быць цяжэйшымі. У інтэрв'ю газеце «Известия» А. Шварцэнегер падкрэсліў, што тэма фільма – як узаемадзейнічаць з такой патэнцыяльнай небяспекай, якія абаронныя сістэмы можна стварыць. "Бо паралельна ўзнікае пытанне: ці не могуць ужо існуючыя сістэмы глабальнай абароны дзяржаваў – накшталт ядзернай зброі – выйсці з-пад кантролю і пачаць функцыянаваць самастойна?"

Увогуле, па меркаванні галівудскай кіназоркі, "Тэрмінатар-3" – гэта самае жорсткае кіно з усіх, у якіх ён здымаўся. "Вы не бачылі і не чулі такіх гукавых і візуальных штукарстваў, якія ўбачыце і пачуеце ў "Тэрмінатары-з". Калісьці штукарствы ў "Тэрмінатара-3" здаваліся вяршыняй камп'ютэрна-кінематаграфічных тэхналогій. Але цяпер яны проста дзіцячая балбатня... Акрамя гэтага ў "Тэрмінатары-3" будзе дзейнічаць звышразбуральная машына. Як ні дзіўна, яна ЖАНЧЫНА , – паведаміў карэспандэнту «Известий» А. Шварцэнегер.

**В.Б.**



*НА ЗДЫМКУ: А. Шварцэнегер на прэзентацыі "Тэрмінатара-3" у Канах.*

УРАЖАННЕ

# «WZ» З МАЯКОЎСКІМ



Калі Уладзімір Маякоўскі ездзіў са сваім антрэпрэнёрам Паўлам Лавутам па вялізнай краіне, за гэтым было жаданне з'явіцца перад чытачом, нібыта перад гледачом — у грандыёзным монаспектаклі. Створаная ім у 1913 годзе першая буйная рэч паўстала на падмостках луна-парку, а галоўную ролю ў спектаклі выконваў сам аўтар. Трагедыя мела назву "Уладзімір Маякоўскі".

З разбежкай у дзевяноста гадоў на падмостках ужо не луна-парку, а Беларускага тэатра юнага гледача, сёлета паўстаў яшчэ адзін "Маякоўскі" — амаль такі ж монаспектакль, у якім, з лёгкай рукі Зміцера Вайцюшкевіча і яго гурт "WZ-orkiestra" творчасць знакамітага паэта атрымала музычнае афармленне.

Першая частка праграмы "Маякоўскі" ўяўляла сабой музычную інтэрпрэтацыю некаторых вершаў паэта. Другая складалася з песень на словы Алеся Камоцкага (якія мусілі ўвайсці ў новы дыск "WZ") і з ужо вядомых кампазіцый Тодара (сцэнічны псеўданім лідэра гурта).

Праз пустыя аканіцы выглядваў мінімалізм чарнеючай прасторы сцэны, на якой, крыху збоку, знаходзілася цікавая футурыстычная канструкцыя на колах — нешта сярэдняе паміж самаварам і самагонным апаратам пачатку XX стагоддзя... Пасля сціплага ўступнага слова Тодара ўсе падрыхтаваліся да галоўнага і для большасці здавалася нечаканага — да музычнага Маякоўскага. Зала чакала...

*Слышал —*
*вас Молчанов*
*бросил,*
*будто*
*он*
*предпринял это,*
*видя, что у вас*
*под осень*
*нет*
*"изячного" жакета*

"Ліст да каханай Малчанава, кінутай ім" з першымі акордамі піяніста, запрошанага на час праекта ў гурт разам з ударнікам-эксцэнтрыкам, і шалёным тэмпам нагадваў гратэсковы вадэвіль. Такой першай кампазіцыяй Вайцюшкевіч зазначыў прысутнасць іранічнага Маякоўскага, рухамі, жэстамі, зваротамі да публікі нібыта пытаўся: нарэшце, дзе розніца паміж публікай пачаткаў XX і XXI стагоддзяў? Мажорны "Роздум на адкрыцці Grand Opera" (іншая назва — "Прыгажуні") змяніўся блюзавым сумам "Бруклінскага мосту". Адзін з агучаных Вайцюшкевічам вершаў амерыканскага цыкла, у якім — урбаністычны Маякоўскі: цяжкі ў метафарах, думках, але апанаваны цудам, грамадзінай-сімвалам іншага, капіталістычнага свету.

*Как глупый художник*
*в мадонну музея*
*вонзает глаз свой,*
*влюблен и остр,*
*так я,*
*с поднебесья,*
*в звезды усеян,*
*смотрю*
*на Нью-Йорк*
*сквозь*
*Бруклинский мост*

Чароўны рытм блюза ў выкананні "WZ" прымусіў гэтак жа "драйвова" стукаць сэрца і неяк па-новаму, нечакана ўбачыць праз творчасць жыццё чалавека з гучным прозвішчам Маякоўскі.

Зрэшты, апісаць усё, што адбывалася на сцэне падчас канцэрта, немагчыма.

— Усё ж такі, чым узяў вас Маякоўскі? — спыталася я ў Зміцера.

— Ведаеш, узяў толькі сабой. Гэта быў чалавек, які займаўся канкрэтнай дзейнасцю. Так, ён быў футурыстам, але ён пісаў вершы. Тое, да чаго нельга дакрануцца, але можна адчуць. Бо, калі паслухаць, як ён чытаў, — ён чытаў як мітрапаліт. Вельмі павольна. Пакідаючы паўзы паміж словамі, каб чалавек мог дадумаць сэнс. І гэтак чытала Ахматава, іншыя паэты таго часу. Гэта была традыцыя: каб данесці свае вершы. Рух, лінія... Адчуванне непарыўнасці пры тым, што робіш паўзы. Не ведаю, ці зразумела я зараз скажу: гэта як рэчка ў жыцці, пастаяннасць пры паўзах. Навошта я раблю "Маякоўскага"? Пэўна, праз "Ву-зэт" адбываецца артыстычнае выхаванне публікі. Гэты праект — толькі на карысць беларускай культуры, — адказаў мне Зміцер.

**Алена ГОРМАШ**

*НА ЗДЫМКУ: Зміцер ВАЙЦЮШКЕВІЧ.*




Выходзіць З 1932 ГОДА
**У 1982 годзе ўзнагароджаны ордэнам Дружбы народаў**

**ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР**

**Віктар ШНІП**

**Рэдакцыйная рада:**

**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА,**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**

**Леанід ГАЛУБОВІЧ,**

**Алесь ГАЎРОН — адказны сакратар,**

**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,**

**Уладзімір САЛАМАХА — намеснік галоўнага рэдактара**



**АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**

**галоўны рэдактар — 284-6673**
**намеснік галоўнага рэдактара — 284-4404**
**адказны сакратар — 284-6673**

**АДДЗЕЛЫ:**

**публіцыстыкі — 284-7965**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7965**
**літаратурнага жыцця — 284-7965**
**крытыкі і бібліяграфіі — 284-7965**
**паэзіі і прозы — 284-7965**
**музыкі — 284-8153**
**тэатра, кіно — 284-8153**
**выяўленчага мастацтва — 284-7965**
**карэктарская — 284-8091**
**бухгалтэрыя — 284-6672**
**Тэл./факс — 284-84-61**





Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79

Індэкс 63856 Наклад 1536
Нумар падпісаны ў друк 30.07.2003 у 15.00

Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Выдавец: Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і мастацтва"

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 3122

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12